


Антысавецкая правакацыйная кампанія ангельскага рэакцыйнага друку супроць увозу нібы савецкіх, антырэлігійных запалак праваліласа. На здымку: Фальшыўка, апублікаваная ў ангельскіх рэакцыйных газэтах, якая павінна ўяўляць з сябе карабок „запалак Ісуса хрыста".




Нямеччына. У Штэцінскім парту амаль усе работы спынены. На здымку: Апусьцелыя складыў Штэцінскім парту.



Нямеччына. Цісьне беспрацоўных халадэча. Увесь свой вольны час яны аддаюць на пошукі апалу. Становішча настолькі цяжкае, што беспрацоўныя вымушаны выпраўляць сваіх дзяцей шукаць апал. На здымку: Дзеці валакуць да хаты мяшок з вугалем, якога яны нацягалі з вугальных лайбаў і грузавікоў.



Здань новай імпэрыялістычнай бойні. На здымку: Вопытнае поле хэмічных заводаў Ауэр каля Франкенбурга (Нямеччына). Прывучэньне коняй да масак у часе газавай атакі.



Стамбул (Турцыя). 29 кастрычніка у дзень гадавіны абвяшчэньня рэспублікі, адбыўся парад і дэманстрацыя. На зд.: Школьніцы на дэманстрацыі.





Гаспадараньне ангельскага імпэрыялізму ў Індыі. На здымку: Выгляд адной з вуліц Бамбэю пасьля разгону індускай дэманстрацыі пратэсту супроць нагельскага ўціску.

Імпэрыялісты ўсіх краін ліхаманкава рыхтуюцца да вайны. На здымку: У часе ваенных манэўраў у Шампані францускі салдат навучае дзяўчыну абыходзіцца з супроцьгазам.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Чырвоная Беларусь

МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЁВІК

АДРАС РЭДАКЦЫІ: САВЕЦКАЯ, 59. Тэл. № 17—09

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР М. ХВЕДАРОВІЧ
САКРАТАР Я. ШАРАХОЎСКІ
АФАРМЛЕНЬНЕ НУМАРУ А. ТЫЧЫНЫ

Студзень—люты
№ 2-3 (74-75)
1933
ГОД ВЫДАНЬНЯ IV

# З ПОВАДУ СЬМЕРЦІ ЛЕНІНА

*ПРАМОВА тав. СТАЛІНА НА 2-м УСЕСАЮЗНЫМ ЗЬЕЗЬДЗЕ САВЕТАЎ 26 СТУДЗЕНЯ 1924 г.*

Таварышы! Мы, камуністы—людзі асаблівага складу. Мы скроены з асаблівага матар'ялу. Мы—тыя, якія складаем армію вялікага пралетарскага стратэга, армію тав, Леніна, Няма нічога вышэйшага за гонар належаць да гэтай арміі. Няма нічога вышэйшага за годнасьць члена партыі, заснавальнікам і кіраўнікам якой зьяўляецца тав. Ленін. Ня ўсякаму дадзена быць членам гэткай партыі. Ня ўсякаму дадзена вытрымаць нягоды і буры, зьвязаныя з членствам у гэткай партыі. Сыны рабочай клясы, сыны галечы і барацьбы, сыны неймаверных нястачаў і гераічных намаганьняў—вось хто, перш за ўсё, павінны быць членамі гэткай партыі. Вось чаму партыя ленінцаў, партыя камуністаў, называецца разам з тым партыяй рабочае клясы.

Адыходзячы ад нас, т. Ленін даў нам запавет трымаць высока і захоўваць у чыстасьці вялікую годнасьць члена партыі. Клянемся табе, тав. Ленін, што мы з гонарам выканаем гэты твой запавет!

25 год пеставаў тав. Ленін нашую партыю і выпеставаў яе, як самую моцную і самую загартаваную ў сьвеце рабочую партыю. Удары царызму і яго апрычнікаў, шалёнства буржуазіі і памешчыкаў, узброеныя напады Калчака і Дзянікіна, узброенае ўмяшаньне Англіі і Францыі, хлусьня і паклёпніцтва ставуснага буржуазнага друку,—усе гэтыя скарпіёны пазьменна валіліся на галаву нашай партыі на працягу чвэрткі веку. Але нашая партыя стаяла, як скала, адбіваючы бязьлічныя ўдары ворагаў і вядучы рабочую клясу наперад, да перамогі. У жорсткіх баёх выхоўвала нашая партыя адзінства і зьяднанасьць сваіх шэрагаў. Адзінствам і зьяднанасьцю дамаглася яна перамогі над ворагам рабочае клясы.

Адыходзячы ад нас, тав. Ленін даў нам запавет захоўваць адзінства нашай партыі, як зрэнку вока. Клянемся табе, тав. Ленін, што мы з гонарам выканаем і гэты твой запавет.

Цяжкая і нязносная доля рабочае клясы. Балючыя і цяжкія пакуты працоўных. Рабы і рабаўласьнікі, прыгонныя і прыгоньнікі, сяляне і памешчыкі, рабочыя і капіталісты, прыгнечаныя і прыгнятальнікі,—гэтак будаваўся сьвет спрадвеку, гэткім ён астаецца і цяпер у вялізарнай большасьці краін. Дзесяткі і сотні разоў спрабавалі працоўныя на працягу вякоў скінуць з плеч прыгнятальнікаў і стаць гаспадарамі свайго становішча. Але кожны раз, разьбітыя і зганьбаваныя, змушаны былі яны адступаць, тоячы ў душы крыўду і прыніжэньне, злосьць і адчай і накіроўваючы позіркі на невядомае неба, дзе яны спадзяваліся знайсьці збавеньне. Ланцугі рабства аставаліся некранутымі, або старыя ланцугі зьмяняліся на новыя, гэтаксама цяжкія і прыніжальныя. Толькі ў нашай краіне ўдалося прыгнечаным і задушаным масам працоўных скінуць з плеч панаваньне памешчыкаў і капіталістаў і паставіць на ягонае месца панаваньне рабочых і сялян. Вы ведаеце, таварышы, і цяпер увесь сьвет прызнае гэта, што гэтай гіганцкай барацьбой кіраваў тав. Ленін і ягоная партыя. Веліч Леніна ў тым, перш за ўсё і састаіць, што ён стварыўшы Рэспубліку Саветаў, тым самым паказаў на справе прыгнечаным масам усяго сьвету, што надзея на збавеньне ня страчана, што панаваньне памешчыкаў і капіталістаў нядоўгавечнае, што царства працы можна стварыць намаганьнямі працоўных, што царства працы патрэбна стварыць на *зямлі*, а не на небе.

Гэтым ён запаліў сэрцы рабочых і сялян усяго сьвету надзеяй на вызваленьне. Гэтым і тлумачыцца той факт, што імя Леніна стала самым улюблёным імем працоўных і эксплёатаваных мас.

Адыходзячы ад нас, тав. Ленін даў нам запавет захоўваць і ўмацоўваць дыктатуру пралетарыяту. Клянемся табе, тав. Ленін, што мы не пашкадуем сваіх сіл для таго, каб выканаць з гонарам і гэты твой запавет!

Дыктатура пралетарыяту стваралася ў нашай краіне на аснове саюзу рабочых і сялян. Гэта першая і карэнная аснова Рэспублікі Саветаў. Рабочыя і сяляне не маглі-б перамагчы капіталістаў і памешчыкаў без наяўнасьці гэткага саюзу. Рабочыя не маглі-б разьбіць капіталістаў без падтрыманьня сялян.





**Апошнія праводзіны. Працоўныя Масквы ідуць за дамавінай Леніна.**



**Дом у Горках, у якім памёр Ленін**

Сяляне не маглі-б разьбіць памешчыкаў без кіраўніцтва з боку рабочых. Пра гэта гаворыць уся гісторыя грамадзянскай вайны ў нашай краіне. Але барацьба за ўмацаваньне Рэспублікі Саветаў далёка яшчэ не закончана,—яна набыла толькі новую форму. Раней саюз рабочых і сялян меў форму ваеннага саюзу, бо ён быў накіраваны супроць Калчака і Дзянікіна. Цяпер саюз рабочых і сялян павінен набыць форму гаспадарчага супрацоўніцтва паміж горадам і вёскай, паміж рабочымі і сялянамі, бо ён накіраваны супроць купца і кулака, бо ён мае сваёй мэтай узаемнае забесьпячэньне сялян і рабочых усім неабходным. Вы ведаеце, што ніхто гэтак настойліва не правадзіў гэтую задачу, як таварыш Ленін.

Адыходзячы ад нас, тав. Ленін даў нам запавет умацоўваць усімі сіламі саюз рабочых і сялян. Клянемся табе, тав. Ленін, што мы з гонарам выканаем і гэты твой запавет!

Другой асновай Рэспублікі Саветаў зьяўляецца саюз працоўных нацыянальнасьцяй нашай краіны. Рускія і украінцы, башкіры і беларусы, грузіны і азэрбайджанцы, армяне і дагэстанцы, татары і кіргізы, узбэкі і туркмэны,—усе яны аднолькава зацікаўлены ва ўмацаваньні дыктатуры пралетарыяту. Ня толькі дыктатура пралетарыяту вызваляе гэтыя народы ад ланцугоў і прыгнечаньня, але і гэтыя народы вызваляюць нашую Рэспубліку Саветаў ад цікаваньняў і вылазак ворагаў рабочае клясы сваёй самаахвярнай адданасьцю рэспубліцы Саветаў, сваёй гатоўнасьцю ахвяроўваць за яе. Вось чаму тав. Ленін няўтомна гаварыў нам аб неабходнасьці добрахвотнага саюзу народаў нашай краіны, аб неабходнасьці братняга іх супрацоўніцтва ў рамках Саюзу Рэспублік.

Адыходзячы ад нас, тав. Ленін даў нам запавет умацоўваць і пашыраць Саюз Рэспублік. Клянемся табе, тав. Ленін, што, мы выканаем з гонарам і гэты твой запавет!

Трэцяй асновай дыктатуры пралетарыяту зьяўляецца наша Чырвоная армія, наш Чырвоны флёт. Ленін ня раз гаварыў нам, што перадышка, адваяваная намі ў капіталістычных дзяржаў, можа стацца кароткатэрміновай. Ленін ня раз указваў нам, што ўмацаваньне Чырвонай арміі і палепшаньне яе стану зьяўляецца адной з важнейшых задач нашай партыі. Падзеі, зьвязаныя з ультыматумам Керзана і з крызісам у Германіі, лішні раз пацьвердзілі, што Ленін, як і заўсёды, меў рацыю. Паклянемся-ж, таварышы, што мы не пашкадуем сіл для таго, каб умацаваць нашую Чырвоную армію, наш чырвоны флёт.

Вялізарнай скалой стаіць наша краіна, абкружаная акіянам буржуазных дзяржаў. Хвалі за хвалямі коцяцца на яе, пагражаючы затапіць і размыць. А скала ўсё трымаецца непахісна. У чым яе сіла? Ня толькі ў тым, што краіна наша трымаецца на саюзе рабочых і сялян, што яна ўвасабляе саюз вольных нацыянальнасьцяй, што яе абараняе магутная рука Чырвонай арміі і Чырвонага флёту. Сіла нашай краіны, яе моц, яе трываласьць састаіць у тым, што яна мае глыбокае спачуваньне і непарушнае падтрыманьне ў сэрцах рабочых і сялян усяго сьвету. Рабочыя і сяляне ўсяго сьвету хочуць захаваць Рэспубліку Саветаў, як стралу, пушчаную вернай рукой тав. Леніна ў стан ворагаў, як апору сваіх надзеяў на вызваленьне ад прыгнёту і эксплёатацыі, як верны маяк, што паказвае ім шлях вызваленьня. Яны хочуць яе захаваць і яны не дадуць яе зруйнаваць памешчыкам і капіталістам. У гэтым наша сіла. У гэтым сіла працоўных усіх краін. У гэтым-жа слабасьць буржуазіі ўсяго сьвету.

Ленін ніколі не глядзеў на Рэспубліку Саветаў, як на самамэту. Ён заўсёды разглядаў яе, як неабходнае зьвяно для ўзмацненьня рэвалюцыйнага руху ў краінах Захаду і Ўсходу, як неабходнае зьвяно для палёгкі перамогі працоўных усяго сьвету над капіталам. Ленін ведаў, што толькі гэткае разуменьне, зьяўляецца правільным ня толькі з пункту гледжаньня міжнароднага, але і з пункту гледжаньня захаваньня самой Рэспублікі Саветаў. Ленін ведаў, што толькі гэткім шляхам можна запаліць сэрцы працоўных усяго сьвету прагай да рашучых баёў за вызваленьне. Вось чаму ён, геніяльнейшы з геніяльных правадыроў пралетарыяту, на другі-ж дзень пасьля пралетарскае дыктатуры заклаў фундамант Інтэрнацыяналу рабочых. Вось чаму ён няўтомна пашыраў і ўмацоўваў саюз працоўных усяго сьвету—Камуністычны Інтэрнацыянал.

Вы бачылі за гэтыя дні паломніцтва да дамавіны тав. Леніна дзесяткаў і соцень тысяч працоўных. Праз некаторы час вы ўбачыце паломніцтва прадстаўнікоў мільёнаў працоўных да дамавіны тав. Леніна. Можаце не сумнявацца ў тым, што за прадстаўнікамі мільёнаў пацягнуцца потым прадстаўнікі дзесяткаў і соцень мільёнаў з усіх канцоў сьвету для таго, каб засьведчыць, што Ленін быў правадыром ня толькі расійскага пралетарыяту, ня толькі эўрапейскіх рабочых, ня толькі каленіяльнага Ўсходу, але і ўсіх працоўных сьвету земнай кулі.

Адыходзячы ад нас, тав. Ленін даў нам запавет быць вернымі прынцыпам Камуністычнага Інтэрнацыяналу. Клянемся табе, тав. Ленін, што мы не пашкадуем свайго жыцьця для таго, каб умацоўваць і пашыраць саюз працоўных усяго сьвету—Камуністычны Інтэрнацыянал!

*(Другі зьезд Саветаў Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Бюлетэнь № 1).*



**Траурны мітынг ў Менску у дзень сьмерці Леніна.**

## ВЕКАПОМНАЯ ДАТА

Сьцяпан Нортман

Сёньня ў краіне гудкі загалосяць,
Адзначаць дзевятую дату сьмерці.
Імя вялікае—
Ленін!—
пранясяць,
Усе пакаленьні у сэрцах.

Калектыву сталёвыя крокі,
На скрыжалях гісторыі высеклі дату:—
Дняпроўскіх парогаў рокат,
Прынесьлі энэргію фабрыкам, хатам.

Там, на Дняпры, дзе вада
Цалавала парогі і камень тачыла,—
Нязьведаных тэмпаў хада,
Бальшавіцкая ўпартасьць і сіла,—
Прымусілі сілы прыроды
Працаваць на краіну.
Фантастыкі годы?!
Не! Гэта рэальныя пляны,
Што зьдзейсьнены працай упартай,
адданай!

І там, дзе балота і багна спрадвеку,
Пакуты і гора нясьлі чалавеку,
Карпусы ўзьняліся з бэтону і сталі,
Загулі праўды—
Сталінстану!

І гудзе пераклічкай краіна,—
І мора людзкое усьпенена,
Ў творчай хадзе няспыннай
У думках і сэрцы мы носім—
Леніна!

І гудкі загулі па-над вечар,
У трауры сьцяг—як зьніч...
Над сусьветам—разносіць вецер—
— Дзевяць год, як памёр Ільліч.

Зямля застагнала гудкоў пераклічкаю,—
Завіруха заплакала белай лускою...
Думкі аб ім—гараць зьнічкамі,
Клічуць да працы, да бою...

* * *

Вятры шпацыруюць на пляцу
І цалуюць халодны граніт.
Над колішнім царскім палацам—
Сьцяг чырвоны ірдзее—гарыць.
І палошчыцца ветрамі сьцяг,
І ветры імчацца ў прасьцяг.
Узімку і на прадвесьні—
Сьпяваюць змаганьню песьні.
Узімку-ж гуляюць завеі,
Вакол маўзалею.

* * *

Гудуць у рытмічным натхненьні,
Турбіны магутных электрастанцый:—
Імя вялікае—
Ленін!—
Пранясуць усе пакаленьні,
У камунізм!—апошнюю станцыю.

Студзень 1933 году.

## ЛЕНІН ЖЫВЕ

Ал. Пруднікаў

Сьцягі пурпуровыя узьвеем
Вышэй ад вяршалін гор...
Ленін жыве!
у сэрцах жыве ён...
Няпраўда, што Ленін памёр!
У шахце працую, на поле іду,
Цагліны нясу муляром,—
Усюды квітнеюць агні яго дум,
Змаганьнем запальваюць кроў.

Ён палажыў на рычаг руку,
Галу зямную узважыў...
І ў сьвеце бязрадасным, у сьвеце
пакут—
Радзілася шчасьце наша.
Дзе ў песьнях магутных сырэн,
у пульсах электра-дынама
у сілах замкнутых—у шлюзы рэк
гэнія сэрца дынаміць

Бо высьпелі нівы ягоных ідэй
на буйных палёх пяцігодкі...
Аздобім калосьсем яго маўзалей,
Яго—няўміручага, жывога!
Вышэй-жа, да самых зор
сьцягі пурпуровыя узьвеем...
Няпраўда... няпраўда,
што Ленін памёр,—
Жыве у ідэях Ленін!

## ДАНБАС.



Забіўка лёткі пасьля выдаткаваньня мэталю. На здымку: камсамольская ўдарная брыгада тав. Барышнікава забівае глінай лётку пасьля выплаўкі чыгуну.

## ПРАЛЕТАРСКАМУ ПІСЬМЕНЬНІКУ, ПІСЬМЕНЬНІКУ БАЛЬШАВІКУ

## ЛІСТ У. І. ЛЕНІНА А. С. СЕРАФІМОВІЧУ [1])

Дарагі таварыш!
Сястра толькі што перадала мне пра страшнае няшчасьце, якое на Вас абрушылася [2]). Дазвольце мне моцна, моцна паціснуць Вам руку і пажадаць бадзёрасьці і моцнасьці духу. Я надзвычай шкадую, што мне не ўдалося ажыцьцявіць сваё жаданьне часьцей бачыцца і бліжэй пазнаёміцца з Вамі. Але Вашы творы і апавяданьні сястры ўнушылі мне глыбокую сымпатыю да Вас, і мне дужа хочацца сказаць Вам, як патрэбна рабочым і ўсім нам Ваша работа і як неабходна для Вас цьвёрдасьць цяпер, каб перамагчы цяжкі настрой і прымусіць сябе вярнуцца да работы. Прабачце, што пішу наскора. Яшчэ раз: моцна, моцна паціскаю руку.

Ваш ЛЕНІН.

21 мая 1920 г. (Масква).

[1]) Ліст увайшоў у т. XXIX, 2 выд. (расійскага) поўнага збору твораў У. І. Леніна.
[2]) У маі 1920 г. на фронце грамадзянскай вайны быў забіты сын А. С. Серафімовіча.

## ПРЫВІТАНЬНЕ ЦК УсеКП(б) ТАВ. СЕРАФІМОВІЧУ А. С.

ЦК УсеКП(б) горача вітае пралетарскага пісьменьніка тав. Серафімовіча А. С. у дзень яго сямідзесяцігодзьдзя.
Камуністычная партыя высока цэніць т. Серафімовіча, як пралетарскага пісьменьніка-рэвалюцыянэра, тварца клясычнага твору „Жалезны паток“.
ЦК УсеКП(б) жадае т. Серафімовічу здароўя і сіл для справы служэньня рабочае клясе, на справу поўнай перамогі сацыялізму.

## А. С. СЕРАФІМОВІЧУ

Менгарком КП(б)Б ад імя бальшавікоў і ўсіх працоўных гор. Менску—сталіцы Беларусі—шле гарачае бальшавіцкае прывітаньне пісьменьніку-рэвалюцыянэру Серафімовічу А. С. у дзень яго 70-годзьдзя.
Барацьбіту за справу рабочай клясы, за дыктатуру пралетарыяту, буйнейшаму пралетарскаму пісьменьніку жадаем здароўя, сілы і энэргіі для далейшай барацьбы на фронце сацбудаўніцтва.

Менгарком КП(б)Б.

## „ЯК ПАТРЭБНА РАБОЧЫМ І ЎСІМ НАМ ВАША РАБОТА“

„Дарагі Аляксандр Серафімавіч, у ваш 70-гадовы юбілей мы шчыра вітаем вас—пісьменьніка, які з першага моманту сваёй літаратурнай дзейнасьці і на ўсім працягу яе, усёй сваёй істотай і ўсёй сваёй творчасьцю быў з рабочаю клясаю. Вы адлюстроўвалі яе рэвалюцыйны ўздым, ваш пратэстуючы голас раздаваўся ў эпоху самай цёмнай, самай мрочнай рэакцыі, калі адышоўшая ад рэвалюцыі інтэлігенцыя аддавалася „свистопляске“ рэакцыі і аплёўваньню рэвалюцыі. Вы пранесьлі незаплямленым свой сьцяг праз усе гэтыя гады, калі адышлі, калі шмат хто хістаўся. Вам у гэтыя змрочныя гады здалёк паціскаў руку Уладзімер Ільліч Ленін, што пачуў ваш мужны голас праз выцьцё і рогат гіен і шакалаў рэакцыі. Разам з рабочаю клясаю вы прышлі да пралетарскай рэвалюцыі, вы праўдзіва і з любоўю адлюстравалі яе ў сваім „Жалезным патоку“.
І зараз, пасьля сарака пяці год вашай літаратурнай работы мы можам яшчэ раз паўтарыць слова Ільліча пра тое, як патрэбна рабочым і ўсім нам ваша работа“.

Аргкамітэт Саюзу Савецкіх пісьменьнікаў СССР і РСФСР.

## ПАВАЖАНЫ АЛЯКСАНДР СЕРАФІМАВІЧ!

Ад імя савецкай літаратурнай грамадзкасьці шчыра вітаем Вас з слаўным юбілеям сямідзесяцігодзьдзя са дню Вашага нараджэньня. Вам—аднаму з найлепшых і буйнейшых пралетарскіх пісьменьнікаў, чыю творчасьць ацаніў у свой час і Уладзімер Ільліч Ленін, Вам—пісьменьніку-рэвалюцыянэру, аўтару незабыўнага „Железного потока“ мы жадаем доўгіх год жыцьця і слаўнае творчае працы на карысьць нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Ваша жыцьцё і Ваша творчасьць—найлепшы прыклад для ўсіх нас і для маладога падрастаючага пакаленьня літаратурных сіл Вялікага Савецкага Саюзу.

Аргкамітэт Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў БССР.

## Пастанова прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР

Узнагародзіць пралетарскага пісьменьніка т. Серафімовіча А. С. ордэнам Леніна за яго літаратурныя заслугі перад рабочаю клясаю і працоўнымі масамі Саюзу ССР.

Старшыня ЦВК Саюзу ССР М. Калінін.
Сакратар ЦВК Саюзу ССР А. Енукідзэ.

Масква-Крэмль, 19 студзеня 1933 г.

А. ВЫСОЦКІ

# ПІСЬМЕНЬНІК ПРАЦЫ І ЗМАГАНЬНЯ

*(Сямідзесяцігодзьдзе А. С. Серафімовіча)*



Пралетарскаму пісьменьніку А. С. Серафімовічу—70 год.

А. С. Серафімовіч (Папоў) нарадзіўся ў казачай сям'і ў станіцы Ніжня-Курмаярскай (былая вобласьць войска Данскога). Бацька А. С. рыхтаваў зрабіць яго верным самаўладзтву вайсковым служакам. Маці ўгаварывала сыну іншае. Паказваючы яму, як на пляцы білі розгамі казака, маці казала: „ніколі, ніколі ня будзь вайсковым, яны выправяць з цябе душу". Калі памёр бацька, маці А. С., аддала сына ва унівэрсытэт, хоць і была вельмі бедная.

Змрочны, подлы час быў тады ў Расіі. Цар Аляксандр III жывым пахаваў у каменных мяшкох Шлісэльбургскае цытадэлі лепшых прадстаўнікоў гераічнае „Народнае волі". Аляксандр III трымаў усю краіну як у жалезным кулаку, нячшадна прыдушваючы ўсякі вольны гэст, усякі вольны рух. Школы былі ўзяты пад суровы нагляд... Вольна расьцьвіло толькі бяздум'е, падлізьніцтва—„чаго хочыце", картыжніцтва і п'янства. Амаль выключна моладзь ня мірылася з гэтым становішчам, амаль выключна ў яе радох зьяўляліся протэсты,—так піша А. І. Елізарава (Ульянава) у сваёй прадмове да стэнаграмы судовага працэсу па справе П. Шэвырава, А. Ульянава і інш.

Першага сакавіка 1887 г. А. І. Ульянаў—брат У. І. Леніна, П. Шэвыроў, Б. Генэралаў і інш.—усё вучнёўская моладзь, робіць замах на Аляксандра III. Цар пяцёх удзельнікаў замаху на ягонае жыцьцё, у тым ліку і А. І. Ульянава—павесіў.

А. С. Серафімовіч, які ведаў А. Ульянава, будучы студэнтам апошняга курсу Пецярбурскага унівэрсытэту, піша адозву з прычыны замаху. Паліцыя яго арыштоўвае. Ссылае ў Мезень (потым у Пінегу) Архангельскае губэрні.

Удзел у рэвалюцыйным руху, а потым і ссылка вызначылі пісьменьніцкі шлях Серафімовіча. У Пінезе ён піша першае сваё апавяданьне з жыцьця мясцовых памораў („На крызе"). У гэтым апавяданьні А. Серафімовіч паказвае, як кулакі экспл**ё**атуюць беднякоў-рыбакоў, пазычаючы ім патрэбную для работы вопратку, лодку, прылады і бяручы за гэта сабе большую частку іхнае здабычы.

Адбыўшы ссылку ў Архангельскае губэрні, А. С. Серафімовіча высылаюць на Дон пад нагляд паліцыі. Калі ён вызваліўся ад нагляду, дык асабліва пачаў цікавіцца і знаёміцца з жыцьцём шахцёраў на Доне, з жыцьцём заводзкіх рабочых. Так зьяўляюцца апавяданьні—„Пад зямлёю", „На заводзе", „Інвалід" і інш.

Ва ўсіх гэтых апавяданьнях зьдзіўляе чытача глыбокае веданьне жыцьця рабочых, дапытлівае зазіраньне аўтара ў глыбіню гэтага жыцьця, распазнаваньне прычын, якія нараджаюць цяжкія, нечалавечыя ўмовы працы рабочых.

Надышоў рэвалюцыйны 1905 год. Цэлая група апавяданьняў Серафімовіча адлюстравала рэвалюцыйны рух гэтага пэрыяду. Гэтыя рэвалюцыйныя апавяданьні, напісаныя ў 1905—10, гадох усе прасякнуты аднэю думкаю, адным настроем. У іх выражаецца яркае спачуваньне змагарам за свабоду, у іх пісьменьнік даў галярэю рэвалюцыянэраў-падпольшчыкаў. Так у апавяданьні „Жывая турма" дадзен вобраз рэвалюцыянэра Варухова, які зьняволен у адзіночную камэру і надоўга выкрасьлен з жыцьця, як і шмат іншых, што сядзяць у турме.

У гэтых самых апавяданьнях Серафімовіч бічуе людзей, якія сваёю пасыўнасьцю і злачынным няўдзельнічаньнем падтрымліваюць самаўладны лад, які тады існаваў. Ён бічуе людзей поўных дзіўнае тупое і мёртвае абыякавасьці да лёсу рэвалюцыянэраў, якія змагаліся і лілі кроў.

У 1910 г. выходзіць раман А. Серафімовіча „Горад у стэпе". Нараджэньне рабочае клясы, першыя яе крокі, пачатак рэвалюцыйнага руху, яго паражэньні і перамогі—усё гэта на невялічкай прасторы глухога пасёлку, дзе капіталізм, выконваючы сваю гістарычную місію, каланізуючы першабытны стэп, пракладае чыгунку, заводы, капіталістычны горад. Пра гэта апавядаецца ў рамане „Горад у стэпе".

Пасьля лютаўскае рэвалюцыі А. С. Серафімовіч працуе ў „Известиях Московского совета", піша адозвы, брашуры паводле заданьняў маскоўскага камітэту і маскоўскага савету.

Надышоў Кастрычнік. Маладая савецкая краіна на шматлікіх франтох грамадзянскае вайны адваёўвала сабе права на жыцьцё. Серафімовіч, будучы ўжо членам камуністычнае партыі, паехаў на фронт карэспандэнтам ад „Праўды". Пяро пісьменьніка дапамагае арганізоўваць перамогі рабочае клясы. Асабістыя назіраньні, а таксама матэрыялы грамадзянскае вайны на поўдні нараджаюць адзін з лепшых твораў савецкае літаратуры „Жалезны паток", у якім мастацкі паказана гераіка грамадзянскай вайны.

У гэтым рамане расказваецца пра адзін эпізод—пра адступленьне масы сялян-беднякоў з Кубані на поўдзень, дзе падняліся супроць рэвалюцыі, супроць савецкае ўлады заможныя, кулацкія пласты. Беднякі і разьбіты атрад савецкай арміі ішлі з Кубані на поўдзень, каб злучыцца з галоўнымі сіламі савецкага войска. У гэтым паходзе кубанская бедната перанесла столькі пакут, прайшла такі страшны і разам з тым гераічны унівэрсытэт змаганьня, што да канца паходу яна зусім перайначылася. Голыя, босыя, змучаныя, галодныя працоўныя сяляне арганізаваліся ў страшную сілу, якая зьмяла ўсе перашкоды на сваім шляху і дайшла да канца, перажыўшы, перапакутваўшы. Гэта маса адчула, што яе адзіны ратунак—савецкая ўлада.

Кожух—кіраўнік паходу кубанскае беднаты, так выражае настрой усяго атраду, гэтага сапраўды „Жалезнага патоку": „дык за што-ж пакутвалі тысячы, дзесяткі тысяч людзей? За што? За адно: за савецкую ўладу, бо яна адна ў сялян і рабочых, няма ў іх больш нічога".

Атрад кубанскае беднаты, нарэшце, злучыўся з чырвонымі і „ва ўсіх нарастала адчуваньне шчасьця, злучнасьці з тэю грамадою, якую яны ведаюць і ня ведаюць, і каторая завецца Савецкая Расія".

Сіла мастацкага слова А. С. Серафімовіча ў тым рэвалюцыйным сацыялістычным рэалізьме, якім ён карыстаецца ў паказваньні рэчаіснасьці. Ён з найвялікшаю прастатою, але разам з тым з глыбокім клясавым пралетарскім падыходам і праўдаю апісвае гэту рэчаіснасьць, уважліва ўглядаючыся ва ўсю складанасьць жыцьцёвых супярэчнасьцяй, знаходзячы ў іх вядучы пачатак. Гэтым вядучым пачаткам для А. С. Серафімовіча былі інтарэсы змаганьня рабочае клясы і нашае партыі. Гэта давала яму сілу мастацкае творчасьці. Гэта, бясспрэчна, дасьць яму магчымасьць і надалей стварыць яшчэ шмат прыгожых, глыбока-мастацкіх старонак, прысьвечаных нашай гераічнай эпосе.

У дзень сямідзесяцігодзьдзя А. С. Серафімовіча ўспамінаюцца цёплыя сяброўскія словы Ўладзімера Ільліча, напісаныя пралетарскаму пісьменьніку. „Дазвольце мне,—пісаў У. І. Ленін,—моцна, моцна паціснуць вашу руку і пажадаць бадзёрасьці і цьвёрдасьці духу... Вашы творы і апавяданьні сястры ўнушылі мне глыбокую сымпатыю да вас і мне вельмі хочацца сказаць, як патрэбна рабочым і ўсім нам ваша работа".

Тав. А. С. Серафімовіч, як пралетарскі пісьменьнік, зрабіў вялізарную, вельмі каштоўную работу. Ягоныя творы рабілі і робяць пралетарыяту вялікую дапамогу ў змаганьні за сацыялізм і ў перамогах.

малюпаценькія, ледзь прыкметныя—меншыя пазногця. Штосьці рабілі, заўзята бегалі каля коняй, а пасьля раптам замерлі. І ў той-жа момант бухнула раз-за-разам чатыры разы і пайшло ламацца і грукатаць па горах, а ўнізе, па бакох шашы, у розных мясцох у паветры пачалі тарапліва нараджацца белыя клубочкі і лопацца спачатку высока, пасьля ўсё ніжэй і ніжэй, усё бліжэй да шашы і то там, то тут пачалі валіцца са стогнам людзі, коні, каровы. Людзей, ня слухаючы іх стогнаў, хутка клалі на павозкі, коняй і жывёлу сьцягвалі на бок, і зьмяя паўзла і паўзла неразлучна—хурманка ў хурманку.

Кайзэраўскі камэндант пакрыўдзіўся. Жанчын, дзяцей ён мог расстрэльваць, гэтага патрабаваў парадак, але другія гэтага ня сьмелі рабіць без яго, камэнданта, дазволу. Доўгае дула гарматы на браняносцы паднялося і бухнула вялізным языком. Высока над блакітным прадоньнем, над абозам і над горамі паляцела, тарапліва аддаляючыся: клы-клы-клы... і грукнула там, каля перавала, дзе былі малюпаценькія, з пазноўцік людзі, коні, гарматы. Людзі там зноў забеглі. Чатырохгарматная батарэя адна за аднэй пачалі пасылаць камэнданту, і ўжо над „Гебенам" пачалі нараджацца ў блакітным паветры белыя клубочкі. „Гебен" сярдзіта змоўк. З трубы яго густа павалілі вялічэзныя чорныя клубы. Панура рушыў, павольна вышаў з блакітнай затокі ў густую сінь мора, павярнуўся і... страсянула мора і неба. Марская сінь пацямнела. Пад нагамі з нечалавечай сілай здрыгнулася; балюча адгукнулася ў грудзёх, у мазгох; у дамох расхахоніліся вокны, дзьверы, і ўсе на мінуту аглухлі.

Каля перавала ўздымалася нечалавечая грамада чорна-зеленаватая, якая павольна клубілася і ў якую не працінала сонца. І ў атрутлівай пары яе кучкі казакаў, якія засталіся жывымі, пазьвярынаму лупцавалі бізунамі коняй, якія на ўсю расьцяжную рваліся ў горы з астатняю гарматаю і цераз мінуту прапалі за грэбнем. І ўсё стаяла зеленавата-чорная грамада, паволі расплываючыся.

Ад нечалавечага ўздрыгу асела зямля, раскрыліся магілы: па ўсіх вуліцах зьявіліся мерцьвякі. Вясковыя, з чорна-праваленымі ямамі заместа вачэй, у парванай сьмярдзючай бялізьне, яны валакліся, паўзьлі, шкандыбалі, і ўсё ў адным кірунку—да шашы. Адны моўчкі, уніклiва, не апушчаючы вачэй, пакутліва перастаўлялі ногі, другія размашыста перакідвалі за кастылямі бязногае цела, абганяючы другіх, трэція беглі, крычалі незразумелымі, хрыплымі, надрыўнымі галасамі.

І тоненька, як падстрэленая птушка, дзесьці стаяла:

— Пі-іць... пі-іць... пі-іць,—тонка, як падстрэленая птушка, над сухім галодным поплавам.

Зусім маладзенькі, у парванай бялізьне, праз якую жаўцее цела, спакойна перастаўляе мёртвыя ногі, пазіраючы і ня бачачы перад сабой змардованымі вачыма.

— Пі-іць, пі-іць...

Сястра з падстрыжанай дагала, як у хлопца, галавой, з палінялым крыжам на падраным рукаве, босая бяжыць за ім:

— Пачакай, Міця... Куды ты... зараз дам вады, гарбаты, пачакай... Хадзем назад... Не зьверы-ж яны...

— Пі-іць... пі-іць...

У мяшчанскіх дамох пасьпешліва зачыняюцца вокны, дзьверы. З гор, з-за парканаў страляюць у сьпіны, а з лазарэтаў, з шпіталяў, з прыватных дамоў усё вылазяць, вывальваюцца з вакон, падаюць з верхніх паверхаў і цягнуцца і паўзуць за абозамі, што адыходзяць.

Вось і цэмантовыя заводы і шаша... А па шашы ўтароплена праходзяць каровы, коні, сабакі, людзі, хурманкі, арбы,—адпаўзае зьмяіны хвост.

Бязногія, бязрукія, з патрушчанымі, брудна-абматанымі сківіцамі, з накручанымі з крывявых ануч чалмамі на галовах, з забінтаванымі жыватамі, сьпяшаюцца, ня спушчаючы змардаваных вачэй з шашы, а хурманкі ўсё адыходзяць, і ў людзей, што крочаць каля хурманак, твары маўклівыя, нахмураныя, пазіраюць толькі перад сабой. І стаіць бясконцае благаньне:

— Браточкі!... браточкі!... таварышы!...

Далятаюць адсюль то хрыплыя, то надрыўныя галасы, то прарэзьліва зычна чуваць каля самых гор:

— Таварышы, я—ня тыфозны, я ня тыфозны, я—ранены, таварышы!...

— І я—ня тыфозны... таварыш!...

— І я—ня тыфозны...

— І я...

— І я...

Адпаўзаюць хурманкі.

Адзін ухапіўся за нагружаную да верху скарбам і дзяцьмі арбу, і, трымаючыся аберуч, скача на аднэй назе. Сівавусы гаспадар арбы, з пачарнелым, засіveраным сонцам і ветрам тварам, нагінаецца, хапае яго за адзіную нагу і ўсоўвае ў арбу на галовы дзяцей, якія прарэзьліва запішчэлі...

— Та цю! схамэнюся, дзітэй передушыў,—крычыць жанчына з хусткай на патыліцы.

У бязногага твар шчасьлівага чалавека. А ўздоўж шашы ўсё ідуць і ідуць, спатыкаючыся, падаючы, устаючы, або застаючыся бялець нярухома з боку.

— Родныя мае, та ўсіх-бы забралі, як-бы можна, та куда-ж? Скількі своіх раненых, а йісты няма чого, загінэце вы з намі. І шкода вас...—жанкі смаркаюцца і выціраюць сьлёзы, якія ўпарта набягаюць.

Вялізарнага росту салдат, з нахмураным тварам і аднэй нагой, уніклiва пазіраючы перад сабой, далёка закідае наперад кастылі, пасьля дужае цела, без адпачынку шырока абмяркуючы шашу, і прыгаворвае:

— Мацьь вашу так і так... так вас, разьетак!...

А абоз адыходзіць і адыходзіць. Апошнія колы ўжо далёка ўздымаюць пыл і слаба далятае стук жалезных восяў. Горад, затока—ззаду. Толькі пустэльная шаша, а па ёй, далёка расьцягнуўшыся, павольна рухаюцца за абозам, які схаваўся, вясковыя мерцьвякі. Павольна, бясьсілы спыняюцца, садзяцца і кладуцца на абочыне. І ўсё аднолькава пазіраюць мутнымі вачыма ў той бок, дзе схавалася апошняя хурманка. Ціха асядае зачэплены захадам пыл.

А высокі бязногі салдат усё таксама перакідае кастылямі дужае цела па бязьлюднай шашы і мармыча:

— Мацьь вашу так!... Кроў за вас пралівалі... Так вас і так!...

З процілеглага боку ў горад уваходзяць казакі.





## Лукаш Калюга

# Вам знаёмае

(НАВЭЛЯ)

Малюнкі АРЛОВА

Ня тое, што ў аднаго пісьменьніка...

Прышоў Адаму з вёскі ліст і ня было ў ім ніводнае сынтаксычнае памылкі. Але не ставала двух косак і адно шматкроп'е было недарэчы. І ў краіне суцэльнае пісьменнасьці ўжо нельга цытаваць такога лісту—давядзецца пераказваць.

Хваліўся Васіль — Адамаў найлепшы дружака,—што гэтымі днямі была вечарынка ў іх. Да белае раніцы гулялі. Разьвіднявала ўжо, як яны разыходзіліся.

Шкадаваў Васіль, што Адама ня было пры гэтым. Была з таварышкаю, што недзе там у вас, у Менску — пісаў—на цукерачнай фабрыцы працуе, і тая дзяўчына з Журавіч. Ды якраз у гэтым месцы і было тое Васілёва непатрэбнае шматкроп'е. Вышла ў яго, нераўнуючы, як ў тых лірыкаў, якім правапіс ня пісан. А ўсё, каб лепш даняць, каб крануць за жывое.

Аднаго разу — гады тры, як было гэта — прыяжджала тая журaўская дзяўчына да цёткі ў іх вёску з кудзеляю. Вечары са два пасядзеў тады Адам у яе каля прасьніцы, нейкую старасьвецкую польку стаптаў быў з ёю.

Ды што там значылі тыя два вечары! Марна ўсё гэта было. Ня бавілася журaўская дзяўчына ў Паташні. Неўзабаве прыехаў бацька ды забраў яе з гасьцей дадому. Так яно і сьцерлася. А пачыналася ўжо...

Пазалетась—даўно ўсё гэта было. Нават імя тае дзяўчыны цяпер Адам ня помніць, а ведаў-жа. У твар не пазнаў бы, каб стрэць давялося. Пяты нумар лямпа была тады ў Януковых ды й тую яшчэ ўкручвалі—шкадавалі, што лішняе газы гарыць, дык нельга было прыгледзіцца.

Ужо трэці месяц, як калгас пусьціў Адама ў Менск у заработкі. Рабіў ён сталярку ў клінічным гарадку. Там і жыў— у новым доме з зялёным дахам на трэцім паверсе.



Адзін пайшоў ён да трамвайнага прыпынку.

Лета, цяпло... І на трэцім паверсе, дзе іхняя брыгада зрабіла сабе інтарнат, замест вокнаў, сьвяцілі небам нашклёныя дзіркі. Гэта ня шкодзіла. Яны яшчэ шыршыя, прастарнейшыя былі. Лепш, ясьней былі водалей, цераз сьлімізарныя местачковыя хаткі ваколіцы, з іх відаць узьнёслыя гарадзкія муры.

Гэту даль у вакне любіў Адам. Каб шырэй і вышай яна сталіцаю вырoствала, ён і сам быў прычыньнік. Муляры з кельнямі снавалі ёй аснову. Адам-жа з гэблікам, каб гладзей было, падганяў.

Ня знаў тут Адам адзіноты. У іхнім інтарнаце ня то, каб баек—праўцы ня было куды дзяваць. Адусюль з Беларусі па чалавеку сабралася ды і з Украіны было трох. Адзін калі пачне, а другі як паможа... Весела было!

І гэтага дня тое самае. Пачалі з надзённае прыгоды з гарбатаю. А там далей-болей... Заляжалая праўда пашла. А на зьмярканьні і зусім байкі пачаліся — выштукаваныя, слова да слова дабраныя.

Адам ня вельмі гаваркі быў. Мала ён яшчэ сьвету зазнаў: толькі трэці месяц, як з дому, з вёскі. Але пільнаваўся гурту—слухаць любіў. А гэты раз, ліст прачытаўшы, зусім адбіўся. Лёг сабе на сваім палку ў куточку і ляжаў сьціхатою, пазіраў на горад праз небам нашклёнае вакно.

З трэцяга паверху Адаму з палка ня відаць было нізкае ваколіцы. Толькі адзінокія, дзе-ні-дзе панатыканыя, ліхтары ўгадваў ён уніз сярод трухлявых хатак. Было прыкра вачам ад іхняга купчастага, рэдка параскіданага, нахабнага сьвятла. А далей, на гары, цэнтральныя вуліцы сьвяцілі мякка, ласкава...

І Адам устаў.

— Хадзем у горад, хто хоча,—ні з таго, ні з сяго паклікаў ахвотнікаў дапамагчы яму расьсеяць нуду.

— Хто яго! Перад выхадным сходзім.

— Што ты там будзеш рабіць у горадзе?

Ня было кампаніі. Адзін пашоў ён да трамвайнага прыпынку.

На нешта вясёлае, а пацалунку пачатае, трапіў Адам у кіно. Так рэжысэр перамагаў трафарэт — з прызвычаенага канца пачынаў камэдыю. А далей усяго было... Быў і ясны, сонечны дзень на экране. Буйна, выразна прайшлі аблічча. Такія запамінаюцца, такіх-бы пазнаў, каб дзе стрэць давялося, Кончылася-ж так, як звычайна пачынаецца: ішла дзяўчына і блытаўся вецер у яе пад нагамі.

Паўсэансу народу вёз трамвай у Адамаў бок на Камароўку. Цяжка было—ледзьві сунуўся. На першых прыпынках яшчэ крапіўся крыху, а там — што далей, то ўсё болей пачаў растрасаць дарогаю. Каля клінічнага гарадка, крыху раней за Адама, сышлі дзьве дзяўчыны з невялічкімі клункамі. І пытаць ня трэ' было, што вясковыя. Ростам і з адзежы падобны былі яны адна на адну, толькі хусткі іначай завязвалі: адна пад целяпень, а другая пад бараду.

Адышліся яны крокаў колькі ды й спыніліся каля слупу з ліхтаром.

— А цяпер куды? — пыталася бойкая дзяўчына ў хустцы, завязанай пад бараду.

— Дзе гэта мы? — зьбілася з тропу і другая — знакамітая, што насіла хустку пад целяпень.

— Спытаймася,—бойкая кінула на Адама, што ішоў паўз іх.

— А сьціхні ты! Самі знойдзем...

— Чаго там?! Свой хлопец...



**— Вы-ж лішні прыпынак праэхалі,—тлумачыў ён ім.**

Бойкая не ўвалгалася: у горадзе кожны вясковы адзін аднаму нейкі далёкі сваяк. А тут якраз Адам з імі параўняўся. І бойкая, наперакор знакамітай.

— Як тут,—кажа,—на...скую вуліцу трапіць?

Празрыста, нахабна сьвяціў ліхтар. Ясныя, як там, на экране, відаць былі Адаму дзявочыя абліччы. І падалося яму, што гэту ў хустцы пад бараду бойкую дзяўчыну ці то ён дзе бачыў, ці то на нейкую, яму знаёмую, яна вельмі-ж падобна была. Але гэтаму ён і сам не даваў веры. Усе вясковыя, у горад прыехаўшы, крыху падобны адзін на аднаго.

— Вы-ж лішні прыпынак праехалі, — тлумачыў ён ім.—Каб зьлезьлі не даяжджаючы, шмат бліжэй вам было-б.

— От бачыш! А казала: ведаю, завяду, — дакарала бойкая знакомітую.

Тая нешта была памкнулася сказаць, але бойкая перапыніла:

— Маўчы лепш!—ды прасіла Адама:—Пакажэце як нам тут прайсьці.

Адам ...скую вуліцу ведаў. Меў ён увагу, што свае—вясковыя і ня меў занятку на вечар, дык ня то, каб паказаць, а на самую ...скую вуліцу завесьці іх падрадзіўся. Знайшоў патрэбны ім, на паперцы з дому запісаны нумар. Якраз насупраць пошты на другі бок вуліцы быў ён.

Пры рабоце коратак дзень. Адам-жа ад цямна да цямна працаваць быў прывычан. Яму рана было а чацьвертай гадзіне, далёка да вечара летнім днем. І назаўтрае, пасьля таго кіна, пасьля тае стрэчы, нейкая работа рупіла яму. Нарэшце ўспомніў, што не адпісаў ён яшчэ ліста Васілю.

Хацелася прыгадаць імя тае скудзельніцы ды недзе згубілася, закінулася ў памяці—ня было яго напашэве. Намагаўся Адам аднавіць яе вобраз ды дарэмна. Быў добра ў памяці толькі скупы, пятага нумару лямпы, ўкручаны Януковых агонь.

Трацяголетняя скудзельніца непакоіла, але заўважыў Адам, што і тая, учора на трамвайным прыпынку сустрэтая, бойкая вясковая дзяўчына падабаецца яму.

Другі раз стаіўся-б, а цяпер амаль ня ўвесь ліст быў пра Януковых скудзельніцу.

Тры разы ступіць ад інтарнату да паштовае скрынкі. Але што было рабіць Адаму ад чацьвертай гадзіны да далёкага вечара ў такі доўгі летні дзень?! І Адам пашоў аж на ...скую вуліцу. Там гэтак сама на высокім паштовым ганку скрынка была.

Ня было на...скай вуліцы знакамітае дзяўчыны, а бойкую Адам у вакне ўбачыў. Дзень у горадзе яна пабыла і ўжо не пад бараду і не пад целяпень, а нейк іначай кругла хустку завязвала! Гэтак яна харашэйшаю выдавала. Але яшчэ адзін вясковы звычай мела ...ская вуліца: была ціхая, народу мала хадзіла па ёй, дык абы цень матнуўся ці пачула крокі—канечне было ёй ведаць хто там, зірнуць у вакно.

Таму, што Адаму ня было куды сьпяшацца, а дзяўчына жвавейшая была, ён і стрэў яе, ад пошты ідучы.

Апошнюю рупясьць збыў Адам—паслаў ліст Васілю. Было ў яго цяпер вольнага часу даволі і яна тут не на рабоце, а ў гасьцях у замужняе сястры была, дык на горадзе цэлы вечар забавіліся. Вясковае ўспаміналі ўсё.

Расказвала бойкая дзяўчына, як яны, сюды едучы, да яе цёткі па дарозе заяжджалі ды як там вечарынка была.

— Ці ні ў Паўташні часам?—цікнула Адаму.

— А няўжо-ж дзе?!

— Людва, — толькі цяпер прыгадаў ён імя Янукавых скудзельніцы.—А я,—кажа,—і не пазнаў.

— Чаму-ж я цябе адразачку пазнала — толькі з трамваю зьлез.

І па гэты раз—годзе Адам вінаваціць той скупы Януковых агонь.

— Што гэта ўчора за дзяўчына была з табою?—пра знакамітую ён папытаўся.

— З нашай вёскі. На цукерачнай фабрыцы тут. З серады,—яшчэ па вясковаму па днёх лічыла Людва,—і я там станаўлюся на работу.

Шчасьліва — пацалункам таго вечара на ...скай вуліцы насупраць пошты скончылася ў іх. Традыцыйна, кінематаграфічна, але бяз усякае камэдыі.

Жыцьцё-ж такое вясёлае!

Ня вельмі пазорная на пагляд Людва. Але ня было Адаму лепшай, харашэйшай над яе.

24-XI—5-XII 1932 г.
Менск.

**Фото С. ГРЫНА**



Матальны цэх панчошна-трыкатажнага камбінату у Віцебску.



Адзін з цахоў шэвінай фаб-кі „Кастрычнік" (Менск).

# УДАРНІКІ КАМУНАРАЎЦЫ

ЦІШКА ГАРТНЫ

## КАМСАМОЛЕЦ-МЭХАНІК

Гэта Ўладзімер Жаўнаркевіч. Ящчэ дваццацігадовы юнак, а ўжо тры гады майстрам мэханічнага цэху. Ён прышоў на „Камунар“ скончыўшы школу сьлясарнага рамяства. А да гэтага Жаўнаркевіч прайшоў сямігодку. Калі ў яго старчала часу! Але сумненьня мала: паглядзець на гэтага жывога, вяртлявага і дасьціпнага камсамольца і можна згадзіцца, што ён мог-бы спраўляцца ня толькі з непасрэднай працай у цэху.

Жаўнаркевіч складае ўражаньне сур'ёзнага разьвітага рабочага. Ён ведае кошт грамадзе і не адстае ад вучобы. Сястра-настаўніца прывучыла любіць навуку і Ўладзімер ўжо да дваццаці гадоў свайго жыцьця скончыў дзьве школы. Цяпер ён працягвае навучаньне ў заводзкім тэхнікуме. Работа па мэталю, відаць, зьяўляецца ўлюбёнай маладому мэханіку, бо Жаўнаркевіч абраў сабе спэцыяльнасьць па халоднай апрацоўцы мэталю.

Навучаньне адбываецца ў вячэрні, пасьля працы, час. Жаўнаркевіч точна і акуратна наведвае лекцыі. У яго хапае энэргіі і часу ўдарна правясьці работу ў цэху і выканаць грамадзкую нагрузку і наведаць студком, у якім ён старшынёю. Цэхавая партячэйка ўсклала на яго абавязкі па даглядзе за вучобай партыйцаў—і Уладзімер ахвотліва сочыць, каб таварышы не манкіравалі гэтымі важнымі абавязкамі.

Як у працы—ударнік, без жаднае заўвагі, без усялякага спагнаньня за ўвесь час кіраўніцтва цэхам, з трыма прэміямі—у парткалектыве ён актывіст. Будучы ў рамесьленай школе, Жаўнаркевіч выбіраўся ў сакратары камсамольскай ячэйкі, у яе агітпропы і зараз ён ня мысьліць сябе без актыўнай партыйнай чыннасьці.

Партыйна-грамадзкая нагрузка папаўняецца сыстэматычным чытаньнем газэт і кніг. Перадавік ня можа абыйсьціся без таго, каб ня быць у курсе бягучых падзей у міжнародным і ўнутраным жыцьці. „Правда“ і „Рабочий“ інформуюць цікавага юнака-майстра аб тым, як выконваецца пяцігодка, з якім посьпехам ідзе краіна Саветаў па шляху сацыялістычнага будаўніцтва, як рабочая кляса пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі заклацае фундамэнт сацыялізму—і надаюць яму сілы і патасу для яго ўдарнай работы.

Маладое жыцьцё Уладзімера Жаўнаркевіча ўхарошана маладою актыўнаю творчасьцю; яно асалоджана жывым, рэзвым, заняты ударніцтвам. Да гэтых прыгожых якасьцяй завод дадае яму годнасьць героя пяцігодкі.

І па справах—адплата.

## ПЯЦІГОДКА—О-ГО!

Алтар Левін выглядае многа старэй за свае 54 г. Сагнуты, маршчыністы, з кульгавінай; акуляры на паніклых вачох. Але ўнутры гэтага старога, з саракагадовым стажам сьлесара, струмень бадзёрасьці, радаснага настрою. Нутраное яго становішча выразна выдаецца на сабраным твары, у сініх, заўсёды з маладою ўхмылкаю, вачох. Акуляры запацелыя ад пылу, не хаваюць яго добрадушнае і мяккае ўхмылкі. Левін уважліва і напружана ўвіхаецца з напільнікам у руках каля штампаў і душэўная раўнавага яго ня кідае. Раўнавага прасычаная вытворчым захапленьнем, паднімае Левінавы тэмпы да ўдарных бальшавіцкіх тэмпаў. І стары сьлесар-штампаўшчык у шэрагах ударнікаў амаль не спачатку ўваходу ў жыцьцё пяцігодкі.

Працаваць на заводзе, на краіну Саветаў, на сацыялістычнае будаўніцтва—Алтар Левін іначай, як па-ўдарнаму, ня можа і ня ўмее. Гэта-ж ён, разам з усімі, працуе і на сябе.

Мінулі тыя чорныя, заклятыя гады, калі яму даводзілася дванаццацігадзіннымі днямі аддаваць маладыя сілы і патугі гаспадару-эксплёататару. Няхай ужо бацька праз усё жыцьцё дыхаў атрутлівым пылам тутуню на табачнай фабрыцы і памёр рабом капіталіста-прамыслоўца. Праўда, успамінае Левін, ня лёгка даваўся і яму заработак у кустарных майстэрнях правінцыяльнага Менску. Гаспадар карыстаўся слабай арганізаванасьцю рабочых і цісnуў на эксплёататарскі прэс з усёй сілай. Вызваленьне прамянілася ў туманнай далячыні. Царская рэакцыя 1907—8 г. г. навесіла над краінаю чорны полаг сталыпіншчыны. Віселіцы і расстрэлы тэрыразавалі насельнасьць. Забастоўка спынілася. А, бач, толькі два гады назад яны сатрасалі царскі трон. І якія вокагляды адкрываліся Алтару Левіну, калі ён у 1905 г., як вучань камерчаскага вучылішча, актыўна выступаў у забастоўцы вучняў-камэрсантаў. Ці-ж хацелася тады думаць аб той небясьпецы. Між тым яна чакала Левіна назаўтра-ж пасьля заканчэньня забастоўкі: яго выключылі з вучылішча і дарога павяла пераможнага Алтара ў сьлясарную майстэрню.

Умовы працы да таго даліся яму ў знак, што Левін надумаў замяніць іх на „шчасьлівую“ Амэрыку. Авось там, за акіянам, магчыма аблегчыць яго становішча „дэмакратычная рэспубліка“. Задумана—зроблена. Сотня рублёў і агент сплаўляе непаседлівага сьлесара ў шумны Нью-Ёрк. Левін паступае рабочым на завод „Грунполь“ і сустракаецца з тэю-ж штамповачнаю работаю ва ўмовах Амэрыкі. З першых дзён амэрыканская сапраўднасьць дае сабе знаць утончанай, бязьлітаснай эксплёатацыяй, тэйлараўскай патагоншчынай. Васьмігадзінны дзень пакідае за сабой скуткі роўныя, калі не цяжэйшыя за дзесяцігадзінны ў Менскіх майстэрнях. Але бяз грошай ня вернешся назад—пяшком не перайсьці акіяну. Тры з паловаю гады Левін вылівае потам сваё здароўе спрытнаму амэрыканскаму прадпрыемцу і, нарэшце, сьцерпя яго пакідае: Левін пераважае ўмовы Менскія ўмовам Нью-Ёрскім і вяртаецца ў Расію.

Жорсткая, нябось, амэрыканская эксплёатацыя?

— Оха-а!—жахаецца стары сьлесар і махае адмоўна рукой.

— А то-б я ўцёк у царскую Расію?—дадаў ён.—Калі я параўнаю амэрыканскія ўмовы з нашымі савецкімі ўмовамі—то гэта як неба ад зямлі. Што-ж, я пры саветах працую на сваім заводзе, як яго гаспадар, а там—нікчэмная букашка, сродак для эксплёатацыі.

Левін часта робіць гэта параўнаньне і заўсёды яго жахае і царская Расія і „дэмакратычная“ Амэрыка, а стромкім натхненьнем абдае савецкая сучаснасьць.

У 30 годзе на вечары старых рабочых „Камунара“ Алтар Левін сказаў: „Капіталісты нажываліся на нас і нажываюцца на нашых братох, што жывуць у буржуазных краінах, а мы,

Фото Л. МАЗЭЛЕВА



Тав. Алтар Левін

Фото МАЗЭЛЕВА



Тав. Антон Задкоў

таварышы, працуем на сябе: кожны на ўсіх і ўсе на аднаго і пасьпяхова выпаўняем пяцігодку ў чатыры гады. Партыя вядзе правільную лінію, мы за яе змагаемся і пабудуем сацыялізм".

Ён не адышоў ад сваіх слоў і не зламаў дадзенага ўрачыста абяцаньня змагацца за пяцігодку. Належнасьць да перадавога ўдарніка і прэміі за ўдарніцтва—сьведкаю таму.

Партыец Левін малады, але шчыра аддана партыі: „Я паступіў у партыю таму, што цалкам і поўнасьцю падзяляю яе праграму і прызнаю правільнай яе лінію",—кажа ён. Калісьці, гадоў пятнаццаць таму назад, Левіна выпадкова былі залучылі ў Бунд—стары з агідаю ўспамінае той час. Бунд—партыя агентаў клясавага ворага. „Мне зразу не спадабалася бундаўская праграма, яго заклікі да вядзеньня вайны да пабеднага канца, яго згодніцтва з буржуямі ў час лютаўскай рэвалюцыі і пераход на бок контр-рэвалюцыі пасьля Кастрычніка, і я вышаў з Бунду".

На „Камунары" Левін працуе з 23 году. Ён сьлесар 5-га разраду, прэміяваны за добрую, ударную работу. За ўвесь гэты тэрмін ён не парушыў нічым працоўнае дысцыпліны, ён не нанёс заводу жаднага стратку ні прагулам, ні пустою работы.

Першая пяцігодка, на якую ён старанна папрацаваў, увесь час захапляла старога вытворцу-ударніка.

— Пяцігодка—о-го!—выказвае ён свае захапленьне ёю і падкрэсьлівае гэта зацяглай, упартай, ударнай працай.

Воёь з якіх рыс Алтара Левіна нарасла годнасьць героя пяцігодкі, што ганарова надала яму Савецкая краіна.

## МАЙСТАР—РАЦЫЯНАЛІЗАТАР

Рабочы калектыў заводу, партыйныя і грамадзкія арганізацыі прадстаўляюць да годнасьці героя першае пяцігодкі 36 лепшых ударнікаў. Сярод іх маюцца рабочыя ад станка, майстры цэхаў, сябры дырэкцыі, ІТР, культурныя працаўнікі. Кожны цэх, кожная галіна работы дала ад аднаго да некалькіх сваіх прадстаўнікоў-перадавікоў. У ліку ітраўскіх вылучэнцаў стаіць імя маладога майстра бляшанага цэху, майстра рацыяналізатара Антона Задкова. Ён на „Камунары" з 24 году і, за выключэньнем двух гадоў, адданых на работу аддзелу рацыяналізацыі, шэсьць год кіруе цэхам.

Задкоў спэцыяліст свае справы, знаток бляхарнага рамяства і адказны адміністратар. Ад яго не ўхаваеш ніякае дэталі, з якою-б ён ня быў блізка і поўнасьцю знаёмы. Гэта ўзорны кіраўнік цэху, дбайны гаспадар. Няма таго цню, каб Задкоў пакідаў завод раней восьмай-дзевятай гадзіны. Часта вы яго застанеце ў цэху, у цеснай сумнаватай каморцы далёка па за восьмую гадзіну. Ён жыве цэхам, яго патрэбамі, яго ўдасканаленьнямі.

— Якую вы нясеце грамадзкую нагрузку?

— Ні ад якой не адмовіўся-б, каб быў вольны час. Ні да таго заняты, што паверце, ня маю вольны хвіліны. Няхай скажуць, во, мае таварышы.

Словы майстра сьцьвярджаюцца пяцю прысутнымі пры ім бляхарамі.

Як аб лепшым, клапатлівым майстры-ударніку, аб Антоне Задкову адзываюцца і ў заўкоме, і ў рэдакцыі шматтыражкі, і ў дырэкцыі, і ў заводзе. Ён перадавы майстар, энэргічны, рухавы, дасьціпны. Свайму рамяству Задкоў вучыўся ў Гомелі ў прыватнай майстэрні павышанага тыпу. Майстэрня мела да сотні чалавек рабочых. Бацька яго рабочы саладовага заводу, аддаў трынаццацігадовага Антона на ўмову па 35 кап. у дзень. Бляхарная справа далася яму лёгка. Ён пасьпеў пазнаёміцца і з суседнімі гэтаму рамяству працэсамі сьлясарнае работы. Але станок ужо дзевяць год ня бачыў каля сябе Антона Задкова. Яму даручаны больш складаныя вышэйшыя функцыі майстра. Пільная і пранозьлівая думка мае прасторнае поле для супастаўленьня старых і павышаных мэтодаў працы, для крытыкі і праверкі тых, або іншых яе працэсаў.

Многа што вымагала палепшаньняў, удасканаленьня, перабудовы. У гэты бок Задкоў павярнуў сваю вострую ўвагу. І ўрэшце—малады трыццацігадовы майстар знашоў многа магчымасьцяй рацыяналізаваць вытворства ў цэху.

— Вы многа падалі прапаноў?

— Іх у мяне цэлы сьпісак. Цяжка запомніць усіх: яны ляжаць у дырэктара заводу,—спакойліва адказвае Задкоў.

— І ўсе прыняты і праведзены ў жыцьцё?

— Ня памятую гэткіх, каб ня прынялі. Мае прапановы, увогуле, даюць у год 22 тысячы зьберажэньняў.

Сума не малая для невялікага цэху і да таго эфэктыўная, што прысутныя з павагай да майстра сьцьвярджальна ківаюць галовамі.

— Так, 22 тысячы эканоміі,—засьвядчае рэдактар заводзкае шматтыражкі.—На адной пайцы фляг яго прапанова скараціла ўжываньне імпартнага волава на 4 тыс. руб. у год.

Пасьля гэтага становіцца ясна і зразумела, чаму пра Задкова столькі пахвальнае гаворкі, гаворкі прасычанай таварыскім, вытворчым гонарам. Ня дзіва пасьля гэтага, што майстар—рацыяналізатар атрымаў пяць-шэсьць прэміяў грашыма і рэчамі. Яго прэміявалі за значныя і многалікія рацыяналізатарскія прапановы і за добрае кіраўніцтва цэхам. Прэміявала завод і Белмэталаб'яднаньне.

Задкоў—яскравы ўзор новага тыпу рабочага-ўдарніка, вылучанага пралетарскай сям'ёй у майстры і сфарміраванага пяцігодкай у адданага барацьбіта за сацыялістычнае будаўніцтва.

Ён варты яе герой.

2-1—33 г.



Нашы „Гэклінг"-машыны. Іванаўскі будаўнічы завод імя Кісялёва (упяршыню ў СССР) асвоіў вытворчасьць „Гэклінгаў"—машын для першапачатковай апрацоўкі ільну. На здымку: Мантаж „Гэклінга".

Сымон Баранавых, Цішка Гартны, Мікола Хведаровіч

# СЛУЦКІЯ ЎЗОРЫ



**Сакратар Слуцкага райкому тав. Соскін**

... Гэта быў першы даклад пра калектывізацыю. Дом камуністычнай асьветы быў перапоўнены дэлегатамі і членамі сэсіі. Заля мігцела агнямі. Усе напружана слухалі даклад старшыні Клімавіцкага райвыканкому.

Гэта быў пачатак калгаснага нараджэньня.

Гэта быў новы, сьвежы, крынічны струмень... І вось—пасьля дакладу старшыні—выступіў з садакладам тав. Соскін.

Хто-ж такі тав. Соскін?

Таварыш Соскін першы арганізатар, першы пачынальнік клімавіцкіх калгасаў. Распачаў ён вялікую новую справу калгасную, а ня вучыўся гэтай справе нідзе. Бальшавік гэты адчуваў: за гэту справу будзе вялікае змаганьне, будзе вялікая клясавая вайна. Ён вырас у вёсцы і ведаў векам складзеную псыхалёгію селяніна бедняка і кулака.

Гэтыя яркія вобразы неарганізаванага сялянскага жыцьця і шалёнай эксплёатацыі кулаком бедняка ўяўляліся яму нават, тады, калі т. Соскін урываў вольную хвіліну, каб супачыць ад штодзённай шумлівай і напружанай партыйнай работы. Перад яго вачыма праплывала неабсяжная роўнядзь палеткаў Клімаўшчыны, быльнікавыя межы, дзіды на вузкіх палосках заімшэлых ялавін і шырокія каласістыя нівы багацеяў-кулакоў. Яму ўяўляліся такія малюнкі, якія засталіся назаўсёды мабыць яшчэ з дзіцячых гадоў,—гэтая прыніжанасьць бедняка перад багацеям, гэта агідная пакора і ланцугі адвечнай эканамічнай залежнасьці. І гэты багацей-кулак налажыўшы ярмо свайго ўплыву, высмоктваў апошнія сілы бедняка, як павук апутваў і скоўваў волю да змаганьня за вызваленьне ад гэтай адвечнай эксплёатацыі.

І от калі да яго прыходзіў у райком селянін, ён задаваў яму пытаньне:

— А што, дзядзька, цяжка жывецца?

— Але, бедна жывом, таварыш сакратар, ніяк ня ўзьбіцца...

І на гэтым т. Соскін спыняў свайго сабяседніка наступнай гутаркай:

— А што, дзядзька, калі-б разам, усім калектывам значыць ды яшчэ з машынамі?...

І селянін камячыў заскарузлымі рукамі аблезлую аўчынную кучомку і ў нейкай няўпэўненасьці ківаў галавой.

— Цяжкавата. Нічога ня будзе, таварыш сакратар. Гэта калі-б, скажам, я адзін, а то-ж хаўрус. Я дык адразу-б...

І зноў таварыш Соскін пераносіўся ў думках на палеткі, ізноў прад вачыма мільгалі далягляды палёў. Іх узьдзіралі, варочаючы скібы чарназёму, трактары.

Цёмнымі верасьнеўскімі вечарамі, калі з па-за вугольлю сьвішчуць ветры і буйныя кроплі барабаняць у шыбы, падаючы разам з жоўталісьцем, тымі вечарамі, стомлены бясконцымі паседжаньнямі і дзённай суталкай розных спраў, тав. Соскін знаходзіў час для глыбокага вывучэньня вялікіх ісьцін, тэорыі сялянскага руху, абяздоленых беднякоў у сьветлае будучае, імя якому сацыялізм,—тэорыі вялікага правадыра тав. Леніна. Пільна вывучаючы кожнае слова, пералістваючы старонку за старонкай, неадрыўна прагна ўбіраючы ў сябе сьвежы струмень вялікай праўды, прыстасоўваючы да канкрэтнай справы і кругу дзеяньня, у гэтым захапленьні Соскін браў у рукі аловак. Ён устрывожана запісваў свае думкі. Яго вочы гарэлі новай ідэяй. Адна думка апераджала другую, ператвараючыся ў рэальную справу.

І таварыш Соскін пад кіраўніцтвам партыі распачаў у сваім раёне і пусьціў на поўны ход рух калгасны. Але... патрэбны былі і другім раёнам бальшавікі-арганізатары. І ЦК партыі паслала таварыша Соскіна на Случчыну.

— Да болі, ведаеце, не хацелася кідаць распачатую справу,—кажа таварыш Соскін.—Хацелася да канца давесьці на адным мейсцы. Бо бачыў я ўвесь Клімавіцкі раён як на далоні. Бачыў я, што пачатая калгасная справа расьце ня з днём, а з кожнай гадзінай. Асабліва ў першым калгасе—у „Ленінскім шляху"... Уся бедната паўстала на ногі, пайшла ў калгас. Потым калгас „Зьвязда", калгас „Праўда"... (я і зараз лічуся членам шасьці Клімавіцкіх калгасаў). Але трэба было ехаць на Случчыну.

Як-жа сустрэла таварыша Соскіна Случчына?—Людзі незнаёмыя былі, але з барацьбою клясаваю таварыш Соскін знаёмы быў.

Калі таварыш Соскін прыехаў і загаварыў пра калектывізацыю з таварышамі партыйцамі, яму адказалі: „Справа ў нас з калектывізацыяй ня лёгкая. Сталыпіншчына заядае нас. От паспрабуй паехаць у Першамайскі сельсавет, у вёску Вынасцы... там і вухам не павядуць, калі пра калгасы загаворыш"...

І таварыш Соскін паехаў.

Вёска Вынасцы разьбеглася хутарамі. Кожны хутар жыве сваім прадзедаўскім аднаасобніцкім законам.

Замкнуўся кожны хутар шчыльна па сабе. Укараніў у сабе рэлігію, забабоны—аддаў сябе ў лапы кулака.

І ня дзіва, што тут было па калектывізацыі шмат прадстаўнікоў, а нічога ня выходзіла. Былі нават такія здарэньні—праганялі таго, хто прыяжджаў і нават да гаворкі не дапускаліся. Кулакі працавалі—гаварылі беднаце:

— Абойдземся бяз прыежджых.

— Штырце іх, гэтых гаваруноў, памялом.

— Хутары ў нас і мы да калгаса не падыходзім. Калі хочуць—няхай робяць у вёсках калгасы, а мы тут ні прычым.

А таварыш Соскін прыехаў і ня з людзямі пачаў перш-наперш гаварыць, а з падатковымі лісткамі. Сабраў лісткі за апошнія гады і пачаў шукаць прычыну.

І сапраўды — напаў на сьлед, знайшоў прычыну. Вось у чым была яна:

Па падатковых лістках выявілася: мелі „добрыя людзі", імя якім кулакі, па трыццаць гектараў зямлі, мелі па восем кароў, па чацьвёра коняй... Але не „пажадалі" мець—разьмеркавалі сваю зямлю паміж беднатой. „Пашкадавалі", што беднатa жыве ў беззямельлі. І надзялілі беднату той зямлёй, што прыносіць недароды. Аж па чатырнаццаць гектараў не пашкадавалі некаторым беднякам. А сабе пакінулі—па восем гектараў.

Хітрыя кулакі сказалі беднаце:

— Мы не зайздросныя. Калі ласка, бярэце колькі вам трэба. З нас хопіць і па восем гектараў. Мы будзем тут каля сваёй хаты разам з нашымі агародамі засяваць...

(А зямля каля хаты ўся агародная).

— А вы бярэце там,—паказалі яны бедняком на пяскі.

Атрымалася так, што кулакі зрабіліся па колькасьці зямлі—калі не беднякамі, дык серадняками, а беднякі—чуць не кулакамі.

З гэтага і пачалося.

Беднату ў ранейшым—абклалі цьвёрдым заданьнем, а кулак у ранейшым, пачаў разгортваць надалей сваю работу.

І таварыш Соскін адшукаў гэтых, як ён кажа, ваўкоў у авечай шкуры.

Цяпер патрэбна было ўзяцца за работу. Як можна хутчэй трэба была выкрыць сутнасьць кулацкіх хітрыкаў. Але з кім параіцца тут на месцы? Дзе знайсьці чалавека, які жыве тут і ведае кожнага хутаранца, які-б дапамог?

— Учапіўся я,—кажа таварыш Соскін,—за дэмобілізаванага чырвонаармейца. Ведаў, што гэты таварыш дапаможа мне.

І не памыліўся. Ён расказаў мне, як кажуць, хто чым дыша. А я прапанаваў яму быць арганізатарам калгасу.

Соскін піпку-люльку падтрымлівае рукой—выпускае маленькія стружкі дыму, гаворыць:

— Усклаў я арганізатарскія абавязкі на дэмабілізаванага.

Папярэдзіў, што прыдзецца сустрэцца з вялікімі перашкодамі. Сказаў яму, што шмат прыдзецца аддаць энэргіі на гэту працу.

І таварыш Соскін з дэмабілізаваным чырвонаармейцам на першы раз сабралі шэсьць чалавек беднаты. Пагаманілі з імі, з кожным паасобку, растлумачылі ім сутнасьць новага пачатку і выявілася:—двох чалавек адышло. Засталося—чатыры. Тады склікалі агульны сход. На сходзе запісалася ў калгас 14 чалавек. Але з чатырнаццаці—сем адсеялася:—засталося адзінаццаць.

— Так вось і хісталася лічба,—кажа таварыш Соскін—А я зразумеў: ня Вынасцы вінаваты, а той, хто ў Вынасцах—вінават.

Бо калі арганізавалі калгас—жорсткая пачалася барацьба навакол калгасу.

Таварыш Соскін апавядае:

— Калгас засеяў поле, а ўначы—плугамі перапсавалі ўвесь пасеў. Прышлося зьбіраць насеньне, каб засеяць нанава.

І ўсё-ж такі, калгас урэшце замацаваўся. З вёскі Вынасцы зрабіўся сапраўдны „Чырвоны барацьбіт“. „Чырвоны барацьбіт“ на сёнешні дзень выйшаў з добрымі вынікамі. Вырасла партыйная ячэйка, узьнялася вялікая актыўнасьць калгасьнікаў.

Адным з першых ідзе наперадзе „Чырвоны барацьбіт“. Увесь плян нарыхтовак—выкананы поўнасьцю. А сельсавет атрымаў прэмію прамтаварамі на 12.000 рублёў.

Таварыш Соскін—гаспадар Слуцкага раёну. Чалавек гэты—увесь адданы штодзённаму раённаму клопату. Яму нават няма часу пагаварыць з вамі. Ён будзе гаварыць, а тэлефон—то адзін, то другі—будзе перапыняць яго.

— Слухаю... так, так... зьвесткі аб паступленьні бульбы?—наступіла 560 кілё?—добра. Цьвёрдазаданьнікі здалі 409 кілё?—Слухаю... ну, так... Аднаасобнікі Ленінскага сельсавету—290? Слухаю... колькі разам?—2942 кілё. Хто перадаў тэлефонаграму? Волхін? Слухайце, весткі трэба даваць не пазьней трох гадзін кожнага дню. Усяго добрага.

А раён Слуцкі адзін з раёнаў, дзе—шмат кулацкіх і заможных гаспадарак. Раён гэты—бацькаўшчына нацдэмаўшчыны. А ў мінулым—раён бундаўшчыны.

І ня дзіва таму, што клясавая барацьба ў раёне вельмі вострая. У некаторых калгасах кулак так хітра замаскаваўся, што вельмі пільна трэба прыглядацца. Ёсьць калгасы, дзе кулак першым пайшоў у калгас, першым быў „актывістам“, „арганізатарам“ калгасу. Нават былі такія калгасы, куды напралазілі былыя кіраўнікі маёнткаў, афіцэры, вураднікі, якія стварылі цэлую контр-рэвалюцыйную групоўку. Гэта група выключна занялася ўзрываньнем калгасу знутры і дэзарганізавала ўсе вокалічныя калгасы.

Раён зараз мае значныя дасягненьні. Рост жывёлагадоўлі за лік маладняка за апошні год дасягнуў — 84 проц., калгаснае будаўніцтва ўзрасло за апошні год да 25 проц. Па раёну калектывізавана сельскіх гаспадарак 56 проц. Узрасла за апошні год партарганізацыя. Лічба ўзросту даходзіць да 70 проц. (Вырасла 16 новых партячэек).

А па нарыхтоўках раён ідзе адным з першых, ня гледзячы на тое, што кулакі зацята „працавалі“.

Кулакі завяралі:

— Няма хлеба... Шукайце, калі ласка. Знойдзеце лішкі—можам здаць для дзяржавы.

Гаварылі:

— У нас медзяная раса прайшла па сельсавеце і пашкодзіла: не ўрадзіла збожжа.

А збожжа было пахавана. І як: у несьвядомых беднякоў, у сваякоў калгасьнікаў. Прышлося паглядзець, пашукаць. І да прыкладу: у аднаго калгасьніка знайшлі (схаваў цьвёрдазаданьнік) 110 пудоў збожжа, скрынку галёшаў, ботаў, чаравікаў, мануфактуры... 15 пудоў кілбас, 18 пудоў сала.

Калгасьнік тады гаварыў:

— Я тут ні прычым. Папрасіў схаваць і мне ня шкода месца, яно-ж не пралежыцца.

І яшчэ факты: у бедняка-аднаасобніка знайшлі жыта ў сяньніку, на ложку.

— Чаму ты на жыце сьпіш?—запыталі.

— Не мае жыта,—адказаў ён,—кум прывёз і папрасіў мяне, каб я схаваў. Дык вось і схаваў. Ён за гэту схоўку дакляраваў мне два пуды.

(А кумаў кум—цьвёрдазаданьнік).

Або яшчэ:

— Няма чаго нарыхтоўваць... Вымачка была і ўсё збожжа—каюкнула.

І летась была вымачка, і залетась і сёлета.

— Па такіх сельсаветах,—кажа Соскін,—прышлося з цяжкім клопатам выкручваць апартуністычную ваду. Але выкруцілі.

Былі і такія схловы збожжа.

Расьце каля хаты дрэва, і людзі ходзяць каля яго. А калі памацалі „рослае“ дрэва—яно пасаджана над ямаю, а ў яме збожжа захавана.

У Ленінскім сельсавеце дык мяшкі збожжа знайшлі на прызбе. Усю прызбу абклаў цьвёрдазаданьнік мяшкамі і кастрыцаю загладзіў. Пазнайце, калі ласка, з чаго прызьба зроблена?

Быў і такі выпадак: сакратар сельсавету, каб пасварыць беднякоў з серадняками—даваў беднякам большае заданьне, а серадняка̀м меншае.

Клясавая барацьба па раёну жорсткая. Патрэбна было вельмі-ж пільнае партыйнае вока.

І гэтым вокам зьяўляўся, на чале партыйнай арганізацыі таварыш Соскін.



Сыравіна для рэгенэратарнага з-ду Яраслаўскага гумава-азбэставага камбінату (Іванаўская прам. вобласьць).

Выхадцаў і Касталянскі

# Беларускі Дзяржаўны Музэй

Каля скрыжаваньня Савецкай і Чырвонаармейскай, на ўзгорку прытуліўся двухпавярховы дом асабістай архітэктуры. Гэты дом быў пабудаваны ў часы сьвяткаваньня 300-годзьдзя дому Раманавых у тыпічным раманаўскім стылі, вядомым пад назвай „петушиного стиля". Ён, як сваей архітэктурай, так і сваім- прызначэньнем сымбалізаваў перамогу вялікадзяржаўнай палітыкі царскага ўраду ў адной з сваіх калёній — Беларусі.

Сьцены гэтага будынку ня раз бачылі чорнасоценныя сходы, адкуль папы і царскія чыноўнікі распаўсюджвалі атруту ненавісьці і варожасьці да працоўных.

У гэтых-жа сьценах зьмяшчаўся таксама і музэй царкоўна-археолёгічнага камітэту, рассаднік папоўшчыны і рэлігійных забабонаў...

Цяпер у гэтым будынку знаходзіцца Беларускі Дзяржаўны Сацыяльна-Гістарычны Музэй—адна з заваёў Кастрычніцкае Рэвалюцыі.

Каля ўваходу ў музэй мы часта бачым групы школьнікаў і піанэраў, якія наведваюць яго для вывучэньня гісторыі клясавай барацьбы, для папаўненьня і паглыбленьня сваіх ведаў у галіне палітэхнізму і г. д.

Таксама нярэдка мы тут бачым рабочых, калгасьнікаў, чырвонаармейцаў і савецкіх служачых, якія прыходзяць у музэй знаёміцца з марксысцкім разуменьнем мінулага і з вялікімі дасягненьнямі нашага сацыялістычнага будаўніцтва.

Беларускі Дзяржаўны Сацыяльна-Гістарычны музэй мае сваю гісторыю...

Кастрычніцкая Рэвалюцыя ўпяршыню адчыняе шырокія магчымасьці, як для эканамічнага, так і для культурнага развіцьця краіны.

Хутка пасьля Кастрычніцкае Рэвалюцыі ў доме, дзе раней жыў і адпраўляў маленькі архірэй, адчыніўся Менскі Абласны Музэй.

У гэтым музэі нанова зьбіраюцца экспанаты, а таксама канцэнтруюцца калекцыі мясцовай буржуазіі і магнацтва, якія з гэтага часу становяцца маёмасьцю працоўных.

Шпаркімі тэмпамі расьце музэй...

У той час, як пры царызьме ўсё каштоўнае, што было ў царскай правінцыі—Беларусі вывозілася ў цэнтры, пры Савецкай уладзе цэнтральныя музэі РСФСР, вылучаючы з сваіх фондаў каштоўныя калекцыі, дапамагаюць музэю Савецкай Беларусі расьці і разьвівацца.

У часе грамадзянскай вайны, з прыходам белапалякаў, значная частка экспанатаў і нават самых лепшых, гіне, барбарскі разбураецца і рабуецца белапалякамі...

У 1923 г. Музэй нанова аднаўляецца і пачынае існаваць пад назвай Беларускага Дзяржаўнага Музэю.

У гэты час музэй ў сваіх сьценах аб'ядноўвае ўжо значныя калекцыі помнікаў археолёгіі, гісторыі, этнаграфіі і мастацтва.

Праца музэю гэтага пэрыяду яшчэ цесна зьвязана з буржуазнымі традыцыямі. Музэй—сховішча помнікаў стара кытнасьці.



Сэктар першабытна-даклясавага грамадства.



Дырэктар музэю тав. Рак-Міхайлоўскі

Тут мы бачым іржавыя досьпехі рыцараў, пушкі — жывыя сьведкі фэўдальных войнаў і гвалтаў, арабскія і візантыйскія, манэты, занесеныя купцамі, якія вандравалі са сваімі таварамі па водах і шырокіх прасторах старадаўняй Беларусі і шмат іншых рэчаў.

Але-ж у экспазыцыі тагачаснага музэю мы ня бачылі яшчэ ніякага імкненьня падпарадкаваць гэтае зборышча цікавых і каштоўных рэчаў мэтазгоднай ідэі, ніякага імкненьня аб'яднаць іх паводле клясавых прымет.

Музэй знаходзіўся ў палоне старых буржуазных навыкаў, аджыўшых мэтадаў і традыцый пакрытых такім-жа шматвяковым пылам, як і яго экспанаты.

У сувязі з посьпехамі сацыялістычнага будаўніцтва абвастраецца клясавая барацьба.

Клясавы вораг ня дрэмле, ён агаляе свае драпежніцкія зубы і ўсялякімі сродкамі імкнецца перашкодзіць справе працоўных, справе будоўлі сацыялізму.

Гэтая клясавая барацьба знаходзіць свой адбітак таксама і ў галіне культуры і навукі ў асобе вядомага ўсёй працоўнай грамадзкасьці контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму, шавінізму розных колераў і нацапартунізму.

У сьцены музэю прасякалі нацдэмаўскія ідэі, у кіраўніцтва яго пралазілі нацыянал-дэмакраты.

Апошнія імкнуліся паставіць музэй на службу сваім контррэвалюцыйным замыслам.

Прыкрываючыся ідэямі нацыянальнай формы, нацдэмы па сутнасьці справы марылі аб стварэньні нацыянальнай па форме і буржуазнай па зьместу культуры.

Гэтай ідэі пачынаў служыць і музэй...

У сьценах яго ідэалізавана прадстаўляліся фэўдальная і буржуазная мінуўшчына Беларусі, фэтышызаваліся нацыянальныя матывы, адсутнічалі моманты эксплёатацыі і клясавай барацьбы, падмяняючыся буржуазным нацыяналізмам.

У экспазыцыі музэю гэтага пэрыяду перад намі шыма вачыма ўстаюць вобразы былых фэўдальных магнатаў у ганаровых постацях з фамільнымі гербамі і атрыбутамі, партрэты выхаленых дам з сабачкамі і іншае.

Для экспазыцыі гэтых партрэтаў нацдэмамі адводзілася спэцыяльная галярэя, дзе гэтыя жывыя сьведкі і ўдзельнікі жудаснай фэўдальнай эксплёатацыі, панскіх свавольстваў і зьдзекаў над прыгоннымі, прадстаўляліся ідэалізавана бяз усякага крытычнага падыходу і ўскрыцьця іх эксплёататарскай сутнасьці.

Побач з гэтым яны стварылі новы спэцыяльны аддзел царкоўнага мастацтва.

Тут мы бачым сумныя і аскетычныя твары сьвятых, міфічныя малюнкі рэлігійных зьяў, шмат помнікаў царкоўнага разьбярства і іншых культавых рэчаў.

Гэтае паноўскае мастацтва таксама без усялякага крытычнага аналізу паказвалася, як нешта надзвычайнае, неправышальнае, як самабытнае мастацтва беларускага народу.

Сьцены этнаграфічнага аддзелу аздабляліся тэндэнцыйнымі малюнкамі, на якіх беларускае сялянства, што вынесла на сваіх плячох цяжкі ўціск царызму, шматвяковую эксплёатацыю абшарнікаў і зьдзекі царскіх чыноўнікаў, паказвалася тэатралізавана, сьвятошна, у сьветлых радасных фарбах.

Побач з гэтым можна было назіраць шырокае распаўсюджваньне малюнкаў з матывамі народных казак, забабонных паданьняў і вераваньняў, зацямняючых клясавую сутнасьць мінуўшчыны і самасьвядомасьць працоўных.

У той час, як сучаснасьць нацдэмамі ігнаравалася, у музэі ідэалізавалася аднаасобная хутарская і кулацкая гаспадарка.

Заказваліся карціны спэцыяльна на гэтую тэму, на якіх даваўся вобраз самаздаволенага сытага кулака, азіраючага свае шырокія абшары, рабіліся макеты, на якіх дэманстравалася мэтазгоднасьць хутарской гаспадаркі і шмат іншага.

У 1930 г., пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі, быў нанесены рашучы ўдар па контррэвалюцыйнаму нацыянал-дэмакратызму.

Музэй вызвалены ад нацдэмаў.

На чале музэю становіцца партыйнае кіраўніцтва.

Пачалася рашучая барацьба з рэшткамі нацыянал-дэмакратызму.

Узьніклі шуканьні новых форм работы. Пачаліся першыя спробы наблізіць музэйную экспазыцыю да задач сучаснасьці.

У экспазыцыі адбіваюцца элементы клясавай барацьбы, падкрэсьліваецца эксплёататарская сутнасьць пануючай клясы.

— Царкоўны аддзел зьліквідоўваецца, замест яго створаны антырэлігійны.

Адначасна з гэтым праводзілася вялікая работа па зьбіраньню экспанатаў, адбіваючых сучаснасьць, у выніку якой створаны аддзел сацыялістычнага будаўніцтва.

У гэтым аддзеле мы бачым партрэты пралетарыяў, гэрояў сацбудаўніцтва — ударнікаў, бачым дыяграмы і малюнкі, прапагандуючыя мэтады сацыялістычнай працы, мадэлі і макеты, дэманструючыя нашы посьпехі і дасягненьні.

Музэй пачынае наладжваць жывую сувязь з рабочымі прадпрыемствамі, ствярае перасоўныя і стацыянарныя выстаўкі на актуальныя тэмы, як у сьценах, так і па-за сьценамі музэю, арганізуе лекцыі і даклады.

Пасьля Ўсебеларускага зьезду музэйных працаўнікоў (1932 г.) у працы музэю наступае рашучы пералом.

Праца музэю канчаткова накіроўваецца пад сьцяг марксызму і ленінізму.

Клясікі марксызму і ленінізму вучаць нас таму, што чалавечае грамадзтва прайшло на шляху свайго разьвіцьця чатыры асноўных этапы: эпоху першабытна-даклясавага грамадзтва, фэўдалізму, капіталізму і пэрыяд сацыялістычнага наступу.

На працягу шэрагу месяцаў калектыў музэйных працаўнікоў аддана працуе над праявядзеньнем тэорыі клясавае барацьбы ў музэйнай экспазыцыі, уважліва і крапатліва перабірае кожную рэч, каб выявіць яе значэньне і месца ў ходзе гістарычнага працэсу...



Фэўдалізм на Беларусі. Хатнія рамествы.



Капіталізм на Беларусі. На здымку: Аддзел рэвалюцыі 1905 г.



Сацбудаўніцтва Беларусі. Панорама—„Асінбуд".

У выніку напружанай працы музэй адчыняецца пана за рэарганізаваным.

Што сабой прадстаўляе ў сучасны момант музэй?

У экспазыцыі сучаснага музэю мы бачым як вучэньне клясыкаў марксызму аб чатырох асноўных фармацыях, аб іх узьнікненьні, разьвіцьці і зьнішчэньні, аб клясавай барацьбе, базісах і надбудоўках, аб іх сувязі і ўзаемадзейнасьці, праходзіць чырвонай ніткай праз увесь музэй.

У пакоі фармацыі даклясавага грамадзтва перад намі разгортваецца карціна паходжаньня сьвету і за тым чалавека, дзе паказваецца, як гэты чалавек няўхільна крок за крокам вёў барацьбу з сіламі прыроды і як у працэсе гэтай барацьбы разьвіваліся сродкі вытворчасьці.

Тут мы бачым нагляднае сьцьвярджэньне слоў Энгельса, што „праца стварыла самога чалавека", бачым, як нараджаліся і ствараліся клясы...

Пакой фэўдалізму... Перад нашымі вачыма разгортваецца малюнак таго, як „устоі старога непадзеленага на клясы грамадзтва разбураліся самымі ганебнымі сродкамі" і што гэтымі сродкамі зьяўляліся, як кажа Энгельс—„зладзейства, гвалт, хітрасьць, здрада".

Мы бачым, як закаваныя ў непраніцаемыя панцыры фэўдалы-драпежнікі заваёўвалі жалезам і крывёю права на эксплёатацыю, права на жыцьцё і сьмерць працоўных.

У кутку, дзе ускрываецца ідэалёгія пануючай клясы, перад намі паўстае вобраз сэнтымэнтальнага пана, які жаласьліва, захоўваючы сэрца сваёй памёршай жонкі ў спэцыяльна зробленай для гэтага вурне, у той-жа час гвалціць прыгонных дзяўчын, засякае да сьмерці бяспраўных сялян, падвяргае небачным пыткам усіх непакорлівых.

Перад намі карціна нябачнага клясавага прыгнечаньня і таго бяспраўнага становішча у якім знаходзілася сялянства ў далёкія часы фэўдалізму.

Фармацыя капіталізму малюе таксама яскравую карціну прыгнечаньня працоўных пануючымі клясамі і царскім урадам...

На фоне рэформы 1861 г., якая па сутнасьці была „рабункам сялян" (Ленін) перад намі паўстае драпежная зьверападобная фігура царскага сатрапа Мураўёва, які загапіў у крыві паўстаньне 1863 г.

Далей паказаны прамысловы ўздым на Беларусі і рабочы рух, які праз шэраг рабочых стачак і сялянскіх хваляваньняў прывёў да першай расійскай рэвалюцыі 1905 г. Праз усю гэтую тэму праходзіць чырвонай рысай роля камуністычнае партыі і яе правадыра Леніна.

Затопленая ў крыві рабочых і сялян першая рэвалюцыя зьмяняецца хмарнай рэакцыяй, у якой узмацняецца надзелены, па так званай сталыпінскай рэформе, землямі і хутарамі кулак, зьяўляючыся апорай царскай улады на вёсцы.

Тут-жа перад намі паўстаюць твары „правадыроў" царквы, касьцёлаў і сынагогі з грудзямі, аздобленымі мэдалямі, і ордэнамі, атрыманымі за верную службу царызму—„за веру, царя и отечество".

У далейшай экспазыцыі паказваецца, як праціглегласьці капіталістычнага сьвету прывялі да сусьветнай бойні 1914—1918 г., дзе была мабілізавана 66 мільёнаў чалавек і дзе за інтарэсы капіталу было забіта 10 мільёнаў чалавек...

Урэшце мы бачым, як паўстаўшыя рабочыя, сяляне і салдаты скідаюць цара і яго прысьпешнікаў і як пасьля кароткатэрміновага панаваньня буржуазных балбатуноў выбухае вялікая Кастрычніцкая Рэвалюцыя і зацьвярджаецца дыктатура пралетарыяту.

Вялікі Кастрычнік! Першыя крокі яго на Беларусі былі затруднены інтэрвэнтамі і прыхвасьнямі буржуазіі, якія перашкаджалі рабочым і сялянам БССР будаваць сваю сацыялістычную гаспадарку.

У фармацыі сацыялістычнага будаўніцтва ў шэрагу карцін, дыяграм, плякатаў і фотаздымкаў адбіваюцца гэтыя моманты, паказваюцца тыя нябачаныя цяжкасьці, якія прышлося рабочай клясе і працоўнаму сялянству Беларусі перамагчы на шляху пабудовы сацыялізму ў БССР.

Тут мы бачым партызанаў, якія ў глыбі беларускіх лясоў рыхтаваліся да абароны ад ворагаў савецкай краіны, работу партыі ў падпольлі і шмат іншага.

Далей адбіваюцца нашы дасягненьні і перамогі ў галіне сацыялістычнага будаўніцтва, вядучыя галіны прамысловасьці і г. д.

Так, напрыклад, мэталёапрацоўчы завод імя Варашылава адбіт у макеце, дзе яскрава і выразна паказана, як з невялікай майстэрні, у якой працавала да Кастрычніка дзесяткі два рабочых, цяпер ён ператварыўся ў буйны завод, на якім працуе некалькі тысяч чалавек і які ў сучасны момант задавальняе сваёй прадукцыяй Магнітагорск, Кузнецкабуд і іншыя нашы вялікія будоўлі.

Палітэхнічныя працэсы паказаны ў выглядзе мадэлі электрычнай станцыі, у вырабах нашых ФЗС і г. д.

У вялікай панараме, на месцы былых балот і лясоў перад намі паўстае карціна вялікай перамогі Кастрычніка—электрастанцыя Сталінстан.

У тэме—калектывізацыя—паказваецца ліквідацыя як клясы кулацтва і на фоне клясавай барацьбы ў вёсцы адбіваюцца велізарныя дасягненьні нашага сацсэктару ў галіне сельскай гаспадаркі.

Далей прыцягвае нашую ўвагу макет унівэрсытэцкага гарадку, у сьценах якога навучаюцца дзесяткі тысяч пралетарскіх студэнтаў нашай краіны, у якой да рэвалюцыі ня было ніводнага вуза, вывучаюць марксыцкую навуку і атрымоўваюць веды для таго, каб паставіць іх на службу сацыялістычнаму будаўніцтву. Арыгінальны падарунак чыгуначнікаў паднесены XI зьезду партыі—сэмафор, сымбалічна паказвае адчынены шлях на другую пяцігодку, шлях да бясклясавага грамадзтва, па якому мы ўжо перамožна ідзем пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі і яе правадыра т. Сталіна.

У працы музэю яшчэ ня ўсё зроблена, маюцца недахопы, але вялікая зацікаўленасьць шырокага наведвальніка, тысячы якое запоўнены заўвагамі рабочых, чырвонаармейцаў, калгаснікаў, служачых і студэнтаў даюць нам упэўненасьць у тым, што музэй, пры дапамозе шырокіх працоўных мас, у барацьбе за генэральную лінію партыі і пад кіраўніцтвам КП(б)Б будзе рашуча рухацца наперад, да новых перамог.



Парафінаваньне паперы на Менскім фармазаводзе



Электрыфікаваны калгас імя Чарвякова (Мсьціслаўскі раён)

3.

Сабатаж.

Разьюшаны лёт кулацкай кулі—мінулае. Аднак, ярасьць кулака гарачэй, чымся гарачая ярасьць сьвінца. І куды больш важкім, чымся захаваны сьвінец—зьяўляецца захаваны ворагам хлеб.

Рудовіч. Моцны двор. Золакам у вароты грукае Бягун—партпрымацаваны па Пярэжыру. Заліваюцца на ланцугох сабакі, крэкча і ўспамінае бога і „мацъ"—стары гаспадар. Ён сустракае вочы Бягуна—ненавісныя шэрыя вочы, у якіх восьвось прарвецца маланкай буйная ненавісьць:

— Хлеба адвёз?

Маўчаньне. Над вёскай нетаропка бягуць хмары: над дымным засьцілам комінаў, над брэхам сабак, над пустэчай сьвітаньня.

— Няма хлеба.

— Хлеб павінен быць адвезены, грамадзянін Рудовіч,—стрымана адрэзвае Бягун. Ён паварачвае. Калітка бразгае за ім і дзесяткі вачэй сочаць з-за вакон за яго крокамі.

У Пярэжыры—Рудовіч, у Заэер'і—Карп Малаш, Прахорчык, у Забалоцьці, Лешніцах нязломна маўчыць і чакае кулачко. Чакае суцішша, вясны, а там...

На сходзе парт'ячэйкі ўстае Бягун. Ад яго стрыманасьці не застаецца і рэшты. Хлеб у Рудовіча павінны быць узяты. Заваёўваў рэвалюцыю сын, а ня бацька. Хто ведае, што бацька яе не прадаваў? Ён з тых, што недабітыя чакаюць, арганізоўваюць...

І вось Бягун на старонках „Зьвязды" знаходзіць рашэньні аб кулацкім сабатажы. Рашэньні робяцца для таго, каб прыводзіць іх у дзеяньне—у той-жа дзень Бягун зьбірае сваю Пярэжырскую брыгаду: членаў сельсавету, разьбітых ім па 18-ці дворках, камсамольцаў, актыў і вытлумачвае сэнс рашэньня. За работу.

Да Рудовіча:

— Хлеб?...

Рудовіч адчыняе кашалёк і прад'яўляе квітанцыі.—„70 пудоў хлеба здана. Я аддаў апошняе. Я чысты перад дзяржавай, хаця буду галодным, я—бацька чырвонага партызана..."

— Так,—коратка кажа Бягун і запісвае лічбу ў зводку. Рудовіч хлеб здаў—паведамляе ён у сельсавет.—Я правяраў квіты. Бач, пастановы ўзялі за жывое...

Пярэжыр разьбіты на 4 вучасткі, якія павінны даць 22 тоны збожжа. За кожным з вучасткаў—члены сельсавету, камсамольцы. За Пярэжырам сочаць увесь сельсавет і кожны дзень у Пярэжыры члены сельсавету на сваіх вучастках. Кожны дзень Пярэжыр павышае крывую выкананьня. Скончыў выкананьне пляну калгас „Перамога"—старшынёй якога зьяўляецца Бягун. Пярэжыр выходзіць на передавую лінію; крывыя па сельсавету моцна шастаюць угару і лістапад дае 79 проц. пляну.

4.

У канцы сьнежня сельсавет наблізіўся да вышынь завяршэньня пляну. Другая дэкада дала 86 проц. пляну. Першая пяцідзёнка новай дэкады давяла гэты процант да 96,9. У адказ на рашэньні сьнежанскага пленуму ЦК—усе сілы былі мабілізаваны на штурм, на пэўны злом кулацкага сабатажу, на барацьбу за кілёграмы „хвосьцікаў"—што даюць дзесяткі тон па раёну, сотні—тысячы тон па рэспубліцы.

Пытаньне аб кулацка-заможнай частцы прышлося паставіць у цэнтр увагі. Зводка сельсавету не выходзілася са зводкай раёну, раён па даных ссыппунктаў рашуча выкрэсьліваў каля 1/3 зданага цьвёрдаздатчыкамі хлеба са зводак.

Устала пытаньне—у чым сутнасьць? У Забалоцьці, у Лешніцах быў Адашчык—ён правяраў квітанцыі. Пасьля Юркевіча ён выкрыў яшчэ захаваны ў гнаі кулацкі хлеб і пасьля гэтага прымчаўся ў сельсавет.

— Выклікаць усю гэту зграю...—загадаў Адашчык.

Першым быў Рудовіч. Адашчык уважліва праглядаў яго квітанцыі. Поруч быў старшыня торфарцелі—Савіч. Квітанцыі з рук Адашчыка перайшлі ў яго рукі. Блізарукі, ён надзеў вялікія рагавыя акуляры і пільна пачаў праглядаць квітанцыі.

— Квіт мінулага году,—раптам сказаў Савіч,—гэта не ў рахунак. На паўтоны хлеба—падман. Дзіўлюся, як Бягун ня прыкмеціў. Просты аловак—мэханіка даволі няпісьменная.

Квітанцыі ляжалі на стале як абвінавачы акт, як сьведка вынаходлівасьці ворага, яго нястомнага спрыту. Гэта быў той-жа сабатаж,—увасоблены ў крымінальным злачынстве. Адашчык успамятаў кулацкі сьвінец: няма меры, за якой не рызыкуе кулак.

— У ДПУ—коратка загадаў ён.

Падробленыя квіты выявілі ў Забалоцьці, у пасёлку „Чырвоны шлях". Сабатаж—адна з апошніх мер контр-наступу ліквідуемага кулацтва—быў арганізаваны. Гэта быў факт.

У Рудовіча быў утвораны вобыск—сам Адашчык кіраваў ім. Тры тоны хлеба знайшлі ў Аляксея Рудовіча. На другі дзень па вёсках былі праведзены сходы аднаасобнікаў—беднякоў і серадня коў. На выкрыты кулацкі манэўр сход у Забалоцьці адказаў выкрыцьцем новага кулака—Забаўскага.

5.

Дзень сакратара пачынаецца ў 7 гадзін, у цемру, што скупа адчыняе свае шторы насустрач хмурнаму сьвітаньню—калючаму, вятрана-злоснаму, што папярэджвае аб шэрым, як і заўжды, дні. Сакратар апранае чорны дублены тулуп, і насунуўшы на вочы кепку, з-пад якой бачны няголеная ўпартая патыліца—выходзіць насустрач раньню на іржавую ад прагнасьці сьнежнага дывану—дарогу.

Забалоцьце, Пярэжыр, Заазер'е.

Сакратар патрабуе зводак. Завяршаецца змаганьне за хлеб—ён цісьне на лён: Лён ідзе марудна. Трэба падцягнуць, нельга забываць аб ільне. У сельсавеце ён піша аб гэтым Юркевічу, якога няма ад раніцы, як і Адашчыка на станцыі.

Дзень на зломе—калі Адашчык прыходзіць у „Чырвоны Шлях", адзін з адстаючых пасёлкаў. Член сельсавету—Кухаранка, ціснучыся ад холаду, адзервянелымі ад сівера рукамі перадае Адашчыку сьпіс здатчыкаў. Прагл ядзеўшы сьпіс, Адашчык кідае:

— Пойдзем.

Так прыходзіць бязьлітасна-чорная, як ненавісьць ворага, ноч і сакратар крочыць ёй, пад сьвіст ветру, што трэпле крысы яго тулупу.

30-га прэзыдыум сельсавету: апошні націск. Рапартуюць упаўнаважаныя перадавых вучасткаў, члены сельсавету: Пярэжыр, Забічаны, Рыбцы. У гэтыя дні графы пляну запаўняюцца апошнімі лічбамі: барацьба за хлеб у асноўным завершана. Брыгады пераходзяць на змаганьне за лён.

Першае студзеня—рубеж двох пяцігодак—дае 105% пляну.



Чырвоны абоз калгасу імя Сталіна (Татарыя) вязе збожжа на калгасны рынак у Казань.

# Дзяўчаты нашае краіны

*(Ліст з УССР)*



**Латоцька—жонка інжынэра і Шмэтэлюк—камсамолец (акторы Івашчанка і Данец).**

Каб адзначыць першую гадавіну свае працы, Харкаўскі тэатр Рэвалюцыі паставіў новую п'есу вядомага драматурга УССР Івана Мікітэнкі.

Пастаноўку гэтай п'есы трэба адзначыць як вялізарную перамогу тэатру ў сваёй працы. Шмат у гэтым прычыніўся аўтар, што сапраўды даў патрэбную, актуальную, лёгкую гледачу на ўспрыйманьне п'есу. Яе можна назваць як п'есу пра моладзь і маладосьць. Уся яна прасякнута найвялікшаю заўзятасьцю, бадзёрасьцю і сьвежасьцю. П'есаю „Дзяўчаты нашае краіны" украінскі драматург, як ён і сам зазначае, выплаціў частку вялікага доўгу камсамолу, што паставіў пісьменьнікам пэўныя вымаганьні, але, на жаль, іх нашы пісьменьнікі выконваюць вельмі і вельмі павольна.

У п'есе пісьменьнік паказаў моладзь і яе камсамольскую частку такою, якая яна ёсьць, якая павінна быць. Камсамольцы ў п'есе—гэта жывыя канкрэтныя людзі. Яны кахаюцца, любяць кветкі, карыстаюцца ўсім, што дае жыцьцё, і разам з тым астаюцца актыўнымі будаўнікамі сацыялізму. Пісьменьнік у п'есе адышоў ад агульнаўжыванага штампу даваць вобразы камсамольцаў нейкімі людзьмі „ў футаралах", якіх нельга зачапіць, што ні пра што іншае ня думаюць—адно пра справы „высокага парадку". Побач з гэтым аўтар у п'есе даў даволі пераконлівы вобраз інжынэра Латоцкага, што цалкам стаў на бок савецкае ўлады. Каб больш пераканаўча гэта паказаць, аўтар паставіў яго ў канфлікт з жонкаю, мяшчанкаю, контррэвалюцыянэркаю, што апынілася ў бязвыхаднасьці. Не забыўся аўтар падаць і асобных прадстаўнікоў камсамолу, што вельмі задаюцца сваёю партыйнасьцю. У п'есе шмат камэдыйных момантаў, што вызначаюцца бліскучым майстэрствам. Надзвычайна ўдалыя дыялёгі.

Харкаўскі тэатр Рэвалюцыі ў асобе заслужанага артыста рэспублікі рэжысэра Марка Тэрэшчанкі здолеў раскрыць сутнасьць п'есы, яе найтоншыя нюансы, паказаць ва ўсёй глыбіні дзейных асоб п'есы. Акторы-выканаўцы ўяўляюць з сябе моцна зьлітаваны ансамбль. Яскравая і майстэрская таксама і праца заслужанага мастака Анатоля Пятрыцкага, што рабіў афармленьне пастаноўкі. Усю бадзёрасьць, маладую заўзятасьць і націск ёю ўдала вырашыў у афармленьні.

Пра аўтараву, рэжысэраву, мастакову і выканаўскую майстэрскую работу сьведчыць перш-на-перш тое, што п'еса „Дзяўчаты нашае краіны" паўтара ўжо месяца, як ідзе дзень-у-дзень у тэатры пад бясконцыя воплескі гледачоў, якіх штодня зьбіраецца паўнюсенькая заля тэатру.

Цяпер тэатр Рэвалюцыі ў сталіцы УССР, аддаючы належную даніну культурнай спадчыне, аднаўляе пастаноўку п'есы вядомага украінскага клясыка Івана Франко „Украдзенае шчасьце". Апошні раз п'есу ставілі яшчэ да рэвалюцыі. У тэатры п'еса ідзе пад сваею першапачатковаю назваю „Жандар". Гэтак сама адноўлен і першапачатковы арыгінал п'есы—яна ідзе з прапушчанымі раней мясьцінамі (гэту працу зрабіў Іван Кулык). Іх была забараніла, як і назву п'есы, царская цэнзура.

**Б. Сіманцаў.**



**Сцэна з пастаноўкі „Дзяўчаты нашае краіны".**

АЛ. ПРУДНІКАЎ

# ТРЭПЕЛ

*НАРЫС*

Гісторыя ня ведае граніц і берагоў. Яна цячэ, як акіян, шырокаю, бясконцаю палосаю, то ціха, як зялёны шум палёў квітнеючых, то шпарка, як горная рака на пераватах у часе веснавога разводзьдзя. Яна зьмяняе старое аблічча зямлі. Крыша гранітныя ўцёсы перашкод, пакідае ў глыбіні нетраў падземных, як залаты падарунак, вялікія скарбы—паклады яшчэ недаступныя часам законнаму ўладару іх—чалавеку.

І гэтыя скарбы дрэмлюць няўзятымі, заносяцца ілам часу і спакойна ляжаць быццам волаты ў легендарных сказаньнях, пакуль не пабудзіць іх сіла, мацнейшая ад усіх сіл—сіла волі і розуму новага чалавека-будаўніка.

Калі вы будзеце ехаць па нова-пабудаванай чыгунцы з Менску на Рослаў,—за кілёмэтраў восем ад Крычава можна ўбачыць з вакна вагону ў сініх аддалях зялёную паласу, якая прасьцерлася ўсьцяж па даліне з паўночных усходаў невялікага пласкаўзвышша ў напрамку на поўдзень. Гэта і ёсьць—сын ціхага Сожу—Асьцёр.

Паабапал на яго берагох раскінуліся сакавітыя травы ўрадлівых сенажацяй. Нізкія хаткі з саломеннымі стрэхамі, як быццам вандроўнікі, якія зьбегліся ў доўгія шэрагі і стаяць чакаючы новага загаду правадыра. Некаторыя з іх выбіліся табунамі, яны адыходзяць ад доўгага шнуру вёскі, гэта пасёлкі.

Водаль на стромкіх абрывах, пад гордымі шатамі вольхі і дубоў мірна пасуцца сытыя коні. Здалёку бялеюцца стромкія сьцены саскірдаванай стагодзьдзямі крэйды. Увесну іх падмываюць бурлівыя хвалі Астра, і тады яны гулка абвальваюцца, падаюць вялікімі камлыгамі ў вір і тут-жа загладжваюцца пазалочаным зернем рачнога пяску. А потым—ізноў цішыня, як быццам жыцьцё пахавана назаўсёды ў дзікія зарослыя дробным лазьняком курганы, якіх тут безьліч.



**Калгасы Заходняй Сібіры вылучылі калгасьнікаў на паляўнічы промысел. На здымку. Адзін з лепшых паляўнічых Белаўскага раёну т. Чагонаў здымае скуркі з забітых зайцаў.**

Годы імпэрыялістычнай і грамадзянскай войнаў не патрывожылі прыастроўскіх ваколіц і ўсё тут здаўно нагадвала бязьлюдную выспу, накшталт робінзонаўскага запусьцелага кавалка зямлі.

А людзі жылі. Сьпявалі і плакалі. Нараджаліся і паміралі. Яны акрамя сваіх закапцелых хатак нічога ня ведалі ў сьвеце зацягнутым мглою для іх недалёкага зірку. На замену дзядом—падрасталі ўнукі. У 20-гадовым узросьце яны першы раз у жыцьці спрабавалі прыўчыцца насіць штаны, стаць за крывую саху, знайсьці сабе маладзіцу—і болей нічога.

Авеяныя магічным подыхам старыны, яны не маглі парушыць тую спадчыну, якую пакінулі ім продкі, яшчэ на палову паўдзікія пляменьні крывічоў.

Полымя Кастрычніцкай рэвалюцыі ахапіла забыты кут. Кастрычнік прынёс з пераможных блёў новае жыцьцё. Загаварылі вёскі новаю моваю чалавека, змагара за сваю будучыню, які дагэтуль ня меў аніякай мажлівасьці пад'есьці хлеба з квасам. Хлеб быў увосень, квас быў вясною (бярозавік).

Неўзабаве сялянскую хату наведала першая друкаваная газэта. А праз колькі часу сяляне з прыемнасьцю сустракалі незнаёмых людзей з гораду.

У 1926 годзе з Менску прыехала гэалёгічная вывецка. Пасьля досьледаў над крэйдай, з вёскі Стары-Дзедзін, яна на некалькі перамясьцілася ўверх па левым беразе Астра да вёскі Іваноўск.

Людзі капалі, буравалі ўзвышшы берагавых схілаў. За працай шпарка праходзілі доўгія ліпеньскія дні, а вынікаў усе яшчэ ня было. Трацілася ўсякая надзея і ўпэўненасьць у адшуканьні на гэтай закамянелай глебе нечага карыснага для навуковых мэт, для прамысловасьці. І ўрэшце начальнік экспэдыцыі загадаў сваім рабочым складваць „манаткі" і рушыцца далей. Як гэта было ні цяжка, але-ж акрамя такога рашэньня нічога не заставалася рабіць.

Аднаго разу, выпадкова, зайшоў у хату, яшчэ прыгоннага ў мінулым, дзеда Язэпа малады гэолёг N. Язэп з ног да галавы абвёў незнаёмага чалавека засланымі муцьцю гадоў вачыма. Нешта хацелася папытаць у новага чалавека, але не сабраўшы сіл і адвагі дзед змоўчаў і сугорбіўшыся зноўку пачаў майстраваць недаробленую цацку.

Незнаёмы чалавек сумна паглядзеў на дрыжачыя Язэпавы рукі і ласкава запытаўся:

— Што робіш, дзядок?

Язэп быў глухаватым і не дачуўшы сказанага, толькі махнуў рукою.

Малады гэолёг вельмі зацікавіўся Язэпам. Ён зноўку запытаўся ў дзеда пра дзіўныя цацкі.

Завязалася доўгая і цікавая гутарка. Язэп быў дзед кемлівы і добра апавядаў пра перажытае ім, пра прыгон.

Вочы яго загарэліся ціхай радасьцю — радаваўся стары, што цяжкае яго жыцьцё далёка засталося за сьпіною на пройдзенай дарозе.

Незнаёмы чалавек дасьціпна абмацваў выстругавую дзедам фігурку маленькага чалавечка. Яна была зроблена са знойдзенага на беразе кавалка апокі. Апока амаль што нічым не адрозьнівалася ад гіпсу.

Яшчэ ў першай палове дзевятнаццатага стагодзьдзя Язэпу давялося адбываць паншчыну, выпальваць вапну на так званых „прадпрыемствах" тагочаснага фэадала пана Гамынскага.

У дзень „вызваленьня" сялян з-пад прыгону сяляне былі абвешчаны „вольнымі" і загружаныя вапнаю печы былі пакінуты назаўсёды. З цягам часу, яны заплывалі зямлёй і пад імі узьнімаліся каржакаватыя постаці пакрыўджаных ростам і сілай дубкоў і стройныя фігуры бярозак. Тут-жа стаялі і голыя пні ў некалькі абхопаў. Гэтыя старажытныя дрэвы былі ўжо зьнішчаны і мабыць даўно згнілі, заставалася толькі дзівіцца доўгаму веку Язэпа. Але гэта ўсё між іншым. Галоўнае тое, што знойдзена была апока.

Пачаліся досьледы і вышуканьні. Было ўстаноўлена, што апока самая блізкая радня так званай пародзе трэпелу. Трэпел здалёку нагадвае колер цэманту, калі-ж узяць яго кавалак і палажыць на далонь,—ён больш за ўсё падобны да зялёна-жоўтаватай крэйды.

Да 1930 году аб ужываньні трэпелу ў СССР было невядома. Упяршыню ён быў знойдзены ў ваколіцах Новарасійску. Але попыт узрастаў і здабычай Новарасійскіх трэпельных руднаў забясьпечыць усіх патрэбнасьцяй нашага сацыялістычнага будаўніцтва была немагчыма.

Досьледы і практыка напружанай работы гэалёгічнай экспэдыцыі далі высокія паказальнікі нашага мясцовага беларускага трэпелу. Вынікі ў наяўнасьці. Да гэтага часу буйнаблочны камень выраблялся са шчэбеню і цэманту,—цяпер яго замяняе трэпел у сумесі з вапнаю і стружкамі асінавай драўніны. Гэтае вынаходзтва дае вялікую эканомію, асабліва ў наш час, калі нехапае той колькасьці цэманту, што здабываецца ў СССР.

Апрача гэтага з трэпелу вырабляюцца фібранітавыя пліты для пабудовы стандартных дамоў. Таксама ён ідзе для штукатуркі сьцен будынкаў і па сваёй трываласьці ніколькі не ўступае цэманту.

Вялікае значэньне трэпелу заключаецца яшчэ і ў тым, што без яго прымесі ня можа здабывацца буцілен-цэмант і інш. неабходныя будаўнічыя матар'ялы.



**Лепшая ўдарная брыгада Уханава. Выконвае плян па вывазцы лесаматар'ялаў на 170 проц. (Паўночны край).**

У выніку доўгіх аналізаў узьбярэжных парод Астра гэалёгічнай выведкай былі вызначаны вялізарныя паклады высокаякаснай пароды трэпелу, крэйды, апок і чорнай гліны, якая таксама скарыстоўваецца на выпрацоўку цэманту.

Паводле прыблізных падлікаў, гэтых пакладаў хопіць на цэлыя тры пяцігодкі, але акрамя гэтага ў раёне вёскі Сяркоўкі знойдзены яшчэ новы ў 22 квадратовых мэтры 4-мятровай таўшчыні пласт трэпелу.

Наркамцяжпромам БССР былі асыгнаваны належныя сродкі і ў красавіку 1932 г., заключнага году першае пяцігодкі, 130 рабочымі былі выкінуты з некалькіх пробных кар'ераў (штолень) першыя 11 тыс. тон высокага гатунку трэпелу.

* * *

Калі я першы раз глянуў на гэтую мясцовасьць—гаворыць дырэктар тав. Вінакураў—мне зрабілася ніякавата. Ня думалася, што тут можна знайсьці што-небудзь, ды



**Ударная брыгада Храпанава ў часе перапынку. Выконвае плян па лесанарыхтоўках на 180 проц. (Паўночны край).**



**Менск. Агульны выгляд першага ў БССР дзіцячага кіно, якое закончваецца пабудовай.**

і ўмовы былі цяжкія. Прыходзілася начаваць пад адкрытым небам. Ні двара, ні кала, хоць галасі на вецер... Але бальшавіцкая ўпартасьць, воля, рашучасьць і энтузіязм прымусілі мяне забыцца на ўсё. Надзея квітнела, я грэўся на полымі цёплае веры ў заўтра. „Няма такіх цытадэляй, якіх бальшавікі не змаглі-б узяць"—гэтыя словы правадыра пралетарыяту т. Сталіна заўсёды і ўсюды нашу я ў сэрцы, веру ў іх ісьціну.

Крыху памаўчаўшы, ён дастаў з кішэні замасьленага кажуха партсыгар з махоркай і шызы дымок ад нашых папярос разаслаўся ля вакон нова-пабудаванай канторы.

Вечарэла...

Уляёгся маленькі ветрык. Мы выйшлі і накіраваліся да месца распалажэньня работ. Сьцежка завівалася між прыземістых кустоў, па каторай сыходзілі мы ўніз. З-пад ног нашых сыпаліся мёрзлыя кавалкі глебы.

Падыходзім да берагу. Доўгія ярусы трэпельнае пароды былі раскіданы па крутым узьбярэжжы.




**СССР вызваляецца ад замежнай залежнасьці. На здымку: 1-я савецкая друкарская машына „Піанэр", выпушчаная Рыбінскім мэталязаводам імя Ягады.**

— Справа ў тым, гаворыць Вінакураў,—што мы не спраўляемся з адгрузкай сыравіны. Наркамцяжпром адмовіўся даць рэек для пракладкі вузкакалейкі да чыгуначнай станцыі Шасьцёраўка. Засталіся абяцанкаю і 5 аўтамашын, якія былі прызначаны Наркамцяжпромам для перакідкі грузу. Але-ж мы памалу спраўляемся. У нас ёсьць свае коні і 2 гусенічныя трактары.

На канюшні стаялі кожны ў паасобным станку добра адкормленыя ламавікі.

— У нас і каровы, і сьвіньні, усё сваё. Мы самі забясьпечваем сваю сталовую. Рабочыя пасьля працы заўсёды атрымліваюць мясныя абеды. Да вясны будзе закончаны новы жыльлёвы дом для рабочых, таксама нардом-чытальня, прыстасаваная для сцэнічных паказаў, і кіно.

— Будучыня будзе за намі,—падкрэсьліў напасьледак Вінакураў. І сапраўды гэта так.

У мінулым годзе трэпелам забясьпечваліся толькі Крычаўскі цэмантовы і Клімавіцкі сылікатны заводы. У першы-ж квартал бягучага году будуць пушчаны 5 такіх заводаў, з якіх у Клімавічах 2 і астатнія—у Воршы, Віцебску і Менску... Усе яны будуць забясьпечвацца сыравінай Іванаўскіх трэпельных рудняў. Таксама ў хуткім часе непасрэдна на месцы самой здабычы будуць пушчаны фібранітавы, вапнавы і завод буйнаблочнага каменю.

Па колькасьці выпуску прадукцыі гэта будуць першыя ў СССР прадпрыемствы, трэпельнае пераапрацоўкі, яны дадуць некалькі мільёнаў рублёў эканоміі краіне, будуючай сацыялізм, які вырастае ў жорсткай клясавай барацьбе.

Клясавы вораг і тут паказаў сваю шкодную дзейнасьць. Ён імкнуўся з'агітаваць рабочых ня йсьці на работу. Такое было неаднойчы. Заможная частка сялян ня вышла на работу, думаючы гэтым выклікаць прарыў. Сьвядомыя-ж рабочыя ў адказ на такі ўчынак абвясьцілі сябе ўдарнікамі і замацаваліся да канца другой пяцігодкі на прадпрыемстве.

* * *

Неўзабаве на зямлю чорнаю птушкай спусьцілася ноч. То там, то сям чуліся выбухі здаровага юнацкага сьмеху. Гэта рабочая моладзь зьбіралася на камсамольскі сход.

Стройныя тоны гармоніку ліліся на зьлёгку засланыя мглою палі.

У хаце было горача і цьмяна. Ружовы колер лямпавага полымя рытмічна усхліпваў і тады здавалася, што ён хоча матыльком выпархнуць у вакно і ўступіць сваё месца яркай лямпачцы Ільліча.

— Давайце, сьпяем што-небудзь—абазваўся з кутка белатвары юнак:

— Што?

— Частушкі!

— Даёш частушкі! Камсамольскія, баявыя!—пасыпаліся звонкія галасы дружнага пакаленьня вялікай эпохі.

І важкія словы, здаўна вядомага беларускаму чытачу паэты Кандрата Крапівы, паліліся ў дзівоснае рэчышча звонкай песьні.

Хата перапаўнялася новымі наведнікамі.

— Эх, расступіцеся!

— Дайце круг!

— Васька, сып барыню!

Грымнуў гармонік.

І каржакаваты хлапец з пасмай высыпаўшыхся з-пад шапкі валос пусьціўся з прыпеўкай у скокі.

Як я ў лесе дровы сек,
дык забыў там свой кісет,
І сякеру і пілу я
І сваю жонку старую.

— Брава!

— Брава, Васіль Стафаныч!

— Маладзец ты, Васіль Стафаныч!

— На рабоце ударнікам, дык і ў скоках такому ня сорамна!

Нахваліў Васіля малады камсамолец Пятрок Ціткоў...

Пасьля дакладу, рабочыя віталі новы прамфінплян свайго прадпрыемства на першы год другое пяцігодкі.

Хутка запяюць сырэны, пабягуць цягнікі. Ток прабяжыць, па жылах адноўленага цела засмоленага лучынай краю.

Нямыя ў мінулым, абшары Прыастроўяператворацца ў адзін з прамысловых цэнтраў Беларускае ССР.

в. Стары Дзедзін, 1933.

# ПАДПІШЫСЯ НА 1933 г.

**НА ШТОМЕСЯЧНУЮ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА і МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ і КРЫТЫКІ**

# Полымя Рэвалюцыі

**Выходзіць пад рэдакцыяй:** Бацюшкова, Браништэйна, Платона Галавача (адказны рэдактар), Гальперынай, З. Жылуновіча, Якуба Коласа, Крапівы, Міхася Лынькова, Платуна, Кузьмы Чорнага.

**Полымя Рэвалюцыі** зьяўляецца асноўнай літаратурна-мастацкай часопісьсю арганізацыйнага камітэту Саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР, гуртуе вакол сябе лепшыя пісьменьніцкія сілы Савецкага саюзу, знаёміць у перакладах на беларускую мову з навінкамі рэвалюцыйнай літаратуры ўсяго сьвету, змагаецца за чыстату марксыцка-ленінскага літаратуразнаўства, дае ў кожным нумары багаты разьдзел крытыкі і бібліяграфіі, шырока інфармуе пра літаратурнае жыцьцё братніх рэспублік і чужаземных краін.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ НА ЧАСОПІСЬ

# Полымя Рэвалюцыі

на год 24 руб., на паўгода 12 руб., на 3 мес. 6 руб.

Падпіска прымаецца ўсімі філіяламі і кнігарнямі ДВБ, Гарбюро, райбюро і кіёскамі Саюздруку, усімі паштов. агенцтвамі і лістаносцамі

Выданьне Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі. Адказны рэдактар МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ.

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 503. Тыраж 3.500 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—97

ЦАНА 40 кап.

ПАДПІШЫСЯ НА **1933 г.**

на адзіны ў БССР ілюстраваны двухтыднёвы часопіс



# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

334

**24** НУМАРЫ НА ГОД

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІКОЛЫ ХВЕДАРОВІЧА

## ПАДПІСНАЯ ЦАНА

| На год | |
|---|---|
| 7 р. | 20 к. |

| На 6 м-цаў | |
|---|---|
| 3 р. | 60 к. |

| На 3 м-цы | |
|---|---|
| 1 р. | 80 к. |

ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ **30 к.**




## РАЗЬДЗЕЛЫ ЧАСОПІСУ

**МАСТАЦКІ:**

Вершы, апавяданьні, навэлі савецкіх паэтаў і пісьменьнікаў Беларусі.

**КРЫТЫКА:**

Артыкулы пра палітыку партыі ў мастацкай літаратуры, пра лепшыя творы савецкае літаратуры, пра тэатры, кіно, выяўленчае мастацтва БССР і інш.

**НАРЫСЫ:**

З фронту сацыялістычнай індустрыі, пра сацыялістычную перабудову вёскі, пра нацкультбудаўніцтва, партрэты лепшых ударнікаў прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў і інш.

**ГУМАР і САТЫРА:**

Палітычныя фэльетоны, гумарэскі на літаратурныя тэмы, пароды, эпіграмы і інш.

У часопісу ўдзельнічаюць лепшыя сілы савецкае літаратуры Беларусі. Часопіс багата ілюстраваны малюнкамі і фото.

Часопіс „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ прадаецца ўва ўсіх кнігарнях Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі, кіёсках Саюздруку, чыгуначных і паштовых кіёсках, у газэтаносцаў, ува ўсіх гарадох і мястэчках БССР.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА** ўсімі агенцтвамі сувязі і лістаносцамі, кнігарнямі ДВБ, аддзелам падпіскі кнігацэнтру ОГІЗ'у РСФСР, усімі яго філіаламі і ўпаўнаважанымі.

Адрас рэдакцыі: г. МЕНСК, САВЕЦКАЯ 59. Тэлефон 22785.